12 сакавіка 2021 | № 10 (718)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«Пакідаем за сабой права разгледзець любыя далейшыя дзеянні»

стар. 10



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Свабоду і мову ў нас не адабраць

Аксана КОЛБ

**На жаль, сёння кожны з нас можа трапіць за краты толькі таму, што любіць сваю краіну і прагне нармальнага жыцця. Але менавіта цяпер мы свабодныя, як ніколі, і маем усе шанцы на гэта нармальнае жыццё.**

Можна кінуць чалавека за краты — і пазбавіць яго волі, але нельга адабраць у яго свабоду. Гэта добра ведаюць тыя, хто цяпер знаходзіцца па той бок кратаў. Гэта ўсведамляюць і тыя, хто спрабуе жыць па гэты бок. Той водар свабоды — спачатку непрыкметны, а пасля ўсёабдымны, які мы адчулі, — ужо немагчыма заглушыць смуродам рэпрэсій і гвалту.

Ці не ўпершыню за некалькі дзесяцігоддзяў жыхары Беларусі адчулі сябе беларусамі. Нацыяй, якая не проста вартая годнага жыцця, а якой яно наканаванае, магчыма, за ўсе тыя пакуты, што былі вытрываныя. Адчулі і пайшлі ў наступ. Пакуль непрыкметны, але з-за гэтага не менш значны і вырашальны для будучыні Беларусі.

Усё больш людзей цікавяцца славутай беларускай гісторыяй, культурай і традыцыямі роднай зямлі. Некалькі маіх рускамоўных знаёмых у жніўні пачалі размаўляць выключна па-беларуску. Усё больш у крамах, грамадскім транспарце, проста на вуліцах я чую, як людзі кажуць нашы простыя словы: дзякуй, калі ласка, да пабачэння, жыве Беларусь. Пераважная большасць сцягоў раёнаў мае надпісы па-беларуску. Па-беларуску напісаныя і шмат якія налепкі, плакаты, лозунгі.

А зусім нядаўна парадавалі медыкі, якія стварылі ініцыятыву MovaMed за пашырэнне ўжывання беларускай мовы ў медыцыне. У звароце яны напісалі: «Беларусы змяніліся. Мы адчулі сябе нацыяй, якая мае гістарычныя традыцыі павагі да закону, талерантнасці і спагады. Мы не хочам з'язджаць, мы хочам быць гаспадарамі сваёй зямлі. Хочам, каб нашы дзеці засталіся беларусамі. Нашай мэтай ёсць вывучэнне і аднаўленне беларускай медыцынскай тэрміналогіі, свабоднае валоданне ёй у стасунках з беларускамоўнымі пацыентамі і калегамі, пашырэнне ўжывання беларускай мовы ў медыцынскай навуцы і дыскусіях». Цяпер ідзе актыўны запіс на моўныя курсы.

Усё больш грамадзян нашай краіны адчуваюць сябе беларусамі, хочуць быць беларусамі, хочуць ведаць сваю гісторыю, традыцыі, мову. І гэта нягледзячы на тое (а можа, якраз насуперак таму), што ўвосень беларускамоўных затрымлівалі толькі за мову, пазначалі фарбай для больш жорсткага абыходжання з імі ў турмах. На тое, што зачыненыя ледзь не ўсе крамы, дзе прадавалася тавары з этнічнай і нацыянальнай сімволікай. Што за нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг і гістарычны герб "Пагоня" людзей судзяць, у іх канфіскоўваюць машыны і б'юць шыбы. А праўладныя «гісторыкі» выступаюць з абсурднымі заявамі, спрабуючы скампраметаваць нацыянальных герояў і нацыянальныя сімвалы.

І чым больш існуючая ўлада намагаецца пазбавіць народ нацыянальнай ідэнтычнасці, тым больш народ імкнецца нарэшце стаць нацыяй. Некаторыя аналітыкі ўжо назвалі нашу рэвалюцыю нацыянальна-вызвольнай. Аналізуючы тое, што адбылося з намі са жніўня 2020-га, з гэтым цяжка не пагадзіцца. І можа таму сёння ў першы шэраг барацьбы нароўні са свабодай, годнасцю і праўдай выходзіць мова.

Можна выштурхнуць чалавека з краіны, але нельга пазбавіць радзімы. Можна пасадзіць за краты, але нельга адабраць свабоду. Можна закрыць усе беларускамоўныя групы і класы, але немагчыма перашкодзіць вывучаць родную мову, чытаць на ёй, спяваць і, тым больш, думаць.

Радзіма, свабода і мова — гэта тое, што ў нас нельга адабраць. Тое, што дае нам сілы і надзею на лепшую будучыню. Што надае моцы вытрымаць усё і ісці наперад «шчыльнымі радамі».

## ЛІСТЫ ЗА КРАТЫ

**Зноў нам напісала жонка Кіма Самусенкі, а таксама прывітанне перадалі Мікалаю Дзядку.**

*«Коханий Кім! Мы з Ладай у парадку, вельмі любім і чакаем цябе! Вельмі шкада, што наша "прыгода" працягваецца :( Але гэта не на нашым сумленні. 3.03 Лада пачала сур'ёзна хадзіць. Пакуль праходзіць толькі палову пакоя, але ўсё наперадзе :) Лада — вельмі пяшчотная, вясёлая, разумная дзяўчынка. Самастойная, але вельмі любіць кампанію. І вялікая хуліганка :)*

*Са здароўем у мяне, Лады і маіх бацькоў усё добра. Тата аднаўляецца. Пра сябе дакладна скажу пасля кантрольнага візіту да лекара, па адчуваннях — усё ў парадку. Бацькі перадаюць табе прывітанне і жадаюць берагчы сябе і трымацца.*

*Я бязмежна сумую па табе і вельмі спадзяюся, што наша гісторыя не зацягнецца на працяглы тэрмін. Мяне падтрымлівае шмат украінскіх і беларускіх сяброў, а таксама добрыя людзі, з якімі я раней была не знаёмая. Цябе памятаюць і цікавяцца, як у цябе справы.*

*Я трымаюся! Адчуваю сябе добра. Стараюся не перажываць, займаюся сабой і Ладай :)*

*Віншую цябе з усімі нашымі сямейнымі датамі ў сакавіку :) 2.5 годы! Кохаю! Віншую з надыходзячым мініднём нараджэння Лады!*

*Я дуже-дуже кохаю тебе! Ти — найкращий чоловік і тато!!!*

*Мы з дачкой чакаем цябе. Беражы сябе, родны і любімы наш Кім!*

*Твая верная і кахаючая жонка Леся. Твая любімая дачка Лада».*

* * *

*«Дарагі Мікола, вельмі ганаруся табой. Дасылаю табе шмат усмешак, добрых слоў і шчырую падтрымку, каб расфарбаваць цёмнае месца, у якім ты знаходзішся. Спадзяюся, ты зможаш убачыць маё маленькае пасланне, і яно падыме табе настрой.*

*Веру, што хутка ты і Беларусь будзеце свабоднымі! А.».*

## Вядомы хірург звальняецца

**Дзмітрый Харкаў, урач-хірург, кандыдат медыцынскіх навук, загадчык аддзела перспектыўных напрамкаў высокатэхналагічнай медыцынскай дапамогі «МНПЦ хірургіі, трансплантолагіі і гематалогіі», публічна заявіў пра сваё рашэнне пакінуць займаную ім пасаду.**

Прычына — падзея, «якая ў чарговы раз узрушыла медыцынскую супольнасць Беларусі», пішуць «Белыя халаты».

Дзмітрый Харкаў абурыўся фактам скасавання працоўнага кантракту паміж Віцебскай БХМД і лекарам анестэзіёлагам-рэаніматолагам Уладзімірам Мартавым.

Непрацяг кантракту з Мартавым ініцыяваны адміністрацыяй БХМД Віцебска, верагодная прычына — грамадзянская пазіцыя лекара.

Дзмітрый Харкаў перакананы, што са звальненнем такіх спецыялістаў, як Мартаў, пачынаецца чарговая «справа лекараў», калі медыкаў пераследуюць за праўду і сумленнасць.

Таму ён вырашыў праявіць салідарнасць з Мартавым і напісаў заяву аб спыненні сваіх працоўных узаемаадносін з былой 9 бальніцай па заканчэнні тэрміну яго кантракту.

## Мінабароны прызаве 1000 чалавек з запасу

**Пачаўся другі этап комплекснай праверкі баяздольнасці вайсковых злучэнняў. З запасу прызавуць каля 1000 чалавек, піша «Свабода».**

«У рамках праверкі будзе ажыццяўляцца мабілізацыя з ваенных камісарыятаў, камплектаванне спецыяльнай тэхнікай, якая знаходзіцца на працяглым захоўванні, атрыманне матэрыяльных сродкаў са складоў і базаў», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы Мінабароны».

На зборы выкліканы некаторыя вядомыя «запаснікі». Сярод іх — палітычны аналітык Арцём Шрайбман і палітолаг Арсень Сівіцкі. Амаль месяц яны правядуць у вайсковых распалажэннях.

«Праверка дазволіць вызначыць здольнасць камандзіраў кіраваць падначаленымі ў розных умовах. Завяршыцца праверка тактычнымі вучэннямі», — падсумавалі ў абаронным ведамстве.

## Таксіст з Гродна расказаў, чаму не прыйшоў у суд

**Аляксей Лапа павінен быў 3 сакавіка выступіць у судзе Кастрычніцкага раёна Гродна з апошнім словам і чакаць рашэння суддзі.**

Збітаму ў жніўні АМАПам таксісту пракурор запрасіў пакаранне — тры гады пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі агульнага рэжыму. Але ў суд Аляксей, які вінаватым сябе не лічыць, не прыйшоў. Ён перабег беларуска-літоўскую мяжу (калі менавіта, ён не паведамляе) і папрасіў палітычнага прытулку ў Літве. Гродзенец падзяліўся сваёй гісторыяй з карэспандэнтам Hrodna.life.

Аляксей Лапа — 31-гадовы часова беспрацоўны, да затрымання 11 жніўня 2020 года працаваў таксістам. У той дзень яго з сябрамі затрымалі і збілі. Пазней Лапу і аднаго з прыяцеляў абвінавацілі ў гвалце ў дачыненні да амапаўцаў. Разбіральніцтва ішло ў судзе Кастрычніцкага раёна чатыры месяцы. Аляксей сябе называе пацярпелым, але ніяк не вінаватым.

Пра сваё рашэнне пакінуць краіну Аляксей нікому не паведамляў. Са сваякамі звязаўся, толькі калі перасек літоўскую мяжу. У размове з карэспандэнтам Hrodna.life гродзенец прызнаўся, што ўцёкі — самае адчайнае рашэнне ў яго жыцці.

«У мяне быў толькі адзін выбар — збегчы. Я з'яўляюся пацярпелым, а мне хочуць даць тры гады калоніі. Пасля таго, што адбывалася ў краіне, у мяне проста не было веры беларускаму правасуддзю. Шчыра, не хацелася з'язджаць да апошняга, але трэба было прымаць рашэнне: садзіцца ў турму або з'язджаць з краіны».

Лапа пераходзіў літоўскую мяжу ўначы. Ён разумеў, што яго могуць затрымаць яшчэ на беларускім баку і ўзяць пад варту.

«Было страшна. Не было ўпэўненасці, што змагу перабегчы ў Літву. Рызыка ў такіх сітуацыях заўсёды ёсць. Таму трэба было бегчы толькі направа. У выніку атрымалася пералезці праз плот і выйсці на літоўскую тэрыторыю. Праз некалькі хвілін да мяне пад'ехала машына пamежнікаў, спыталі, чаму я тут знаходжуся. Праверылі заплечнік з рэчамі і павезлі на заставу».

Пры сустрэчы з літоўскімі памежнікамі Аляксей папрасіў палітычнага прытулку. На заставе ў яго забралі рэчы і змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання.

«Мне адразу сказалі, каб я нічога не баяўся. Ніхто выдаваць мяне беларускаму боку не збіраецца. Папрасілі напісаць сваю гісторыю і пра тое, чаму прашу прытулку ў Літве. Пасля гэтага прыехаў прадстаўнік міграцыйнай службы і мяне выпусцілі».

Пасля каранціну Аляксея павінны перавезці ў лагер для бежанцаў.

«Пасля збіцця ў жніўні ў мяне пагоршылася здароўе. Гэта быў неабгрунтаваны гвалт у дачыненні да мяне і іншых мірных грамадзян Беларусі. Такога быць не павінна. Я гатовы вярнуцца ў Беларусь, калі законы пачнуць працаваць на карысць грамадзян».

У жніўні 2020 года Аляксей звярнуўся ў Следчы камітэт з заявай: прасіў правесці праверку па факце збіцця яго супрацоўнікамі АМАПа. У студзені 2021 года прыйшоў адказ: адмовіць ва ўзбуджэнні крымінальнай справы «за адсутнасцю ў дзеяннях складу злачынства».

3 сакавіка Аляксей Лапа павінен быў выступіць у судзе Кастрычніцкага раёна Гродна з апошнім словам. Да суда ён рыхтаваўся і напісаў 35 старонак тэксту для апошняга слова.

«Тое, што адбылося са мной 11–12 жніўня 2020 года, — гэта цяжкая траўма, як фізічная, так і маральная. З ёй складана справіцца, адбітак застанецца на ўсё жыццё. Фізічны боль, які я адчуў, я не пажадаю нікому, нават тым, чыімі непасрэднымі дзеяннямі ён быў мне прычынены. Параўнаць мае пачуцці можна з перажываннямі, якія адчуваю героі кніг, фільмаў пра Другую сусветную вайну, у якіх апісваюцца здзекі фашыстаў з ваеннапалонных».

У Гродне Аляксей афармляў дакументы на інваліднасць з-за траўм, якія атрымаў у момант затрымання. У яго было мноства пераломаў і ўдараў. У 2020 годзе Лапу правялі дзве аперацыі. У Літве ён плануе таксама прасіць пра медыцынскую дапамогу. З гродзенцам ужо звязаліся прадстаўнікі фондаў, якія аказваюць дапамогу бежанцам з Беларусі.

22 лютага пракурор запрасіў збітаму АМАПам таксісту Аляксею Лапу пакаранне — тры гады пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі агульнага рэжыму, і папрасіў узяць яго пад варту пасля абвяшчэння прысуду. Таксама пракурор прасіў пра канфіскацыю аўтамабіля Лапы і кампенсацыю судовых выдаткаў. Адвакат настойваў, што Аляксея Лапу трэба апраўдаць па некалькіх прычынах. Па-першае, з-за парушэння нормаў крымінальна-працэсуальнага закона пры ўзбуджэнні справы. Па-другое, з-за парушэння закона пры вытворчасці папярэдняга следства і недаказанасці ўдзелу Аляксея ў здзяйсненні злачынства. Па-трэцяе, з-за адсутнасці прамога намеру ў Лапы, чым характарызуецца арт. 364 КК, і адсутнасці грамадска-небяспечнага дзеяння.

## Прыкметна ўпалі заробкі

**Сярэдні заробак бюджэтнікаў у студзені ўпаў на 101 рубель у параўнанні са снежнем 2020-га — да 1099 рублёў, паведамляе Белстат.**

Гэта сумы да выплаты падаткаў — значыць, на рукі атрымліваецца менш. Пры гэтым таксама рэальныя заробкі, якія разлічваюцца з папраўкай на рост цэн на тавары і паслугі, таксама ўпалі — больш чым на 9 рублёў. Нагадаем, асобным катэгорыям бюджэтнікаў у цяперашнюю пяцігодку абяцаюць падняць у 1,5–2 разы заробак. Але павышэнне зарплаты ў бюджэтнай сферы будзе забяспечвацца, сярод іншага, за кошт аптымізацыі структуры і колькасці работнікаў.

Даныя аб сярэдняй зарплаце публікуюцца да выліку падаходнага падатку і абавязковых страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны. Гэта значыць, што сярэдняя зарплата бюджэтнікаў у студзені пасля ўсіх абавязковых вылічэнняў склала каля 945 рублёў.

У ахове здароўя сярэдняя зарплата ў студзені ўпала на 46,4 рубля — да 1400 рублёў. У лекараў сярэдні заробак у студзені знізіўся на 47,4 рубля — да 2325 рублёў, а ў сярэдняга медперсаналу — на 21,7 рубля (да 1482 рублёў).

Сацработнікі ў студзені ў сярэднім зараблялі 806 рублёў — на 33 менш, чым у снежні.

У адукацыі сярэдняя студзеньская зарплата склала амаль 904 рублі. Гэта на 87 рублёў менш, чым месяцам раней. У выхавальнікаў сярэдняя зарплата ў студзені была на ўзроўні 837 рублёў.

Нагадаем, да канца 2020 года бюджэтнікам планавалі падняць зарплаты да 80% ад сярэдняй зарплаты па краіне. На гэты паказчык па выніках мінулага года ўдалося выйсці, суадносіны склалі 80,4% (за студзень-снежань мінулага года). Аднак тут ёсць нюанс: выйсці на гэты ўзровень шмат у чым атрымалася за кошт надбавак медыкам за барацьбу з каронавірусам.

Асобным катэгорыям бюджэтнікаў у цяперашнюю пяцігодку — у 2021–2025 гадах — абяцаюць падняць у 1,5–2 разы зарплату. Гэта настаўнікі, выкладчыкі, лекары і сярэдні медперсанал, работнікі сферы сацыяльнага абслугоўвання, культуры. Але павышэнне зарплаты ў бюджэтнай сферы будзе забяспечвацца, сярод іншага, за кошт аптымізацыі структуры і колькасці работнікаў, што можа выклікаць дадатковае напружанне ў сферы, асабліва ў рэгіёнах, дзе праблематычна знайсці новае працоўнае месца. Іншыя магчымасці павелічэння заробкаў бюджэтнікаў, якія агучылі чыноўнікі, — паэтапнае павелічэнне базавай стаўкі і развіццё пазабюджэтнай дзейнасці.

Рэальная зарплата, якая разлічваецца з папраўкай на інфляцыю, у студзені ўпала на 9,4% у параўнанні са снежнем.

У ахове здароўя рэальныя заробкі ў студзені знізіліся на 4,3% да ўзроўню снежня, у адукацыі — на 9,8%.

У цэлым па ўсіх сферах дзейнасці рэальныя студзеньскія заробкі ўпалі на 13,5%.

У агульнарэспубліканскім банку вакансій цяпер значыцца 2835 прапаноў для лекараў-спецыялістаў. 1266 прапаноў ад наймальнікаў з заробкам да 700 рублёў. Больш за 1000 рублёў абяцаюць па 655 вакансіях.

Як правіла, заробкі ў вакансіях паказваюць да выплаты падаткаў. Гэта значыць, на рукі атрымаецца менш.

Для настаўнікаў у банку размешчана 190 вакансій. Большасць з іх (127 прапаноў) — на заробак да 600 рублёў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як стварыць віртуальную рэальнасць

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Неаднаразова мы заўважалі, што ўлады жывуць самі па сабе, а народ — сам па сабе. Аднак мы яшчэ не бачылі такі ўзровень віртуальнасці, што прадэманстравалі ўлады на мінулым тыдні.**

Усе дзяржаўныя СМІ паказалі, як Лукашэнка клапоціцца пра беларускія прадпрыемствы. 5 сакавіка ён наведаў Мотавелазавод, шмат казаў пра «інавацыйныя прадпрыемствы» і недапушчальнасць страты вытворчасці, — у прынцыпе, усё як заўсёды. Але пасля выхаду гэтых рэпартажаў выявіліся цікавыя рэчы.

Па-першае, ні на якім «Мотавела» Лукашэнка не быў. Ці быў, але не зусім на МВЗ. У кадрах, паказаных па БТ, людзі пазналі зусім іншае прадпрыемства — прадпрыемства па вытворчасці нейкіх стэлажоў, якое проста арандуе на «Мотавела» вытворчыя пляцоўкі.

Па-другое, даволі цікава выглядала сустрэча Лукашэнкі з «працоўнымі». Як зазначыў тэлеграм-канал «Эканоміка па-беларуску», колькасць персаналу на заводзе з 2007-га па 2017 год скарацілася з 2685 да 76 чалавек.

Хто ў прынцыпе можа застацца на такім прадпрыемстве? Зразумела, павінен заставацца начальнік, яго намеснікі, іх сакратары. Ідэалагічны аддзел распускаць на дзяржаўным заводзе таксама нельга. Вось і выходзіць: не факт, што з 76 чалавек, якія «працуюць» на МВЗ, знойдзецца хоць бы адзін, хто валодае таемнымі ведамі, з якога боку брацца за гаечны ключ.

Атрымліваецца, Лукашэнка толькі рабіў выгляд, што выступае перад рабочымі, — на справе ж там была зусім іншая публіка? Вельмі добрая публіка — тая самая, якая мае ўсе прычыны ўспрымаць сур'ёзна адну з галоўных яго страшылак, што, маўляў, пераможа пратэст — і вы ўсе застанецеся без працы. Для чыноўнікаў, якія развалілі завод, гэта святая праўда. Гэта працоўны заўсёды зможа зарабіць сабе на хлеб, таму што прывык працаваць, а вось заводскі ідэолаг ў нармальнай эканамічнай сістэме — не факт, што знойдзе працу.

Ну і, канешне, не выключана, што тых самых «рабочых» проста завезлі з іншых прадпрыемстваў для стварэння масоўкі.

З таго ж шэрагу — новыя «страшылкі». Маўляў, КДБ выкрыла чарговую групу «тэрарыстаў» (і гэта не так званыя «тэрарысты Аўтуховіча», куды даўмеліся ўключыць нават святара), што завозіла ў Беларусь выбухоўку ледзь не тонамі. «Гэта ўжо Камітэт дзяржбяспекі вам у найбліжэйшы час раскажа, колькі сюды тратылу завезлі і нават пластыду», — паабяцаў Лукашэнка на тым жа віртуальным «Мотавела».

Што ж, чакаем. Аднак узгадаем, колькі цікавага нам абяцалі расказаць раней. Напрыклад, увесну мінулага года Лукашэнка сказаў: «Вось калі скончыцца каронавірус гэты, і не вірус, а псіхоз, я вам шмат чаго цікавага распавяду. Вельмі шмат». Сам ён нібыта двойчы перахварэў, але расповеду ўсё чакаем. «Усё трэба расказаць» было і пра справу Бабарыкі — таксама чакаем. Усю выбарчую кампанію Лукашэнка заяўляў пра замежнае ўмяшанне ў сітуацыю ў Беларусі. Прычым асноўную ролю тады грала Расія. Але адразу пасля выбараў чароўным чынам усе абвінавачванні на адрас Расіі перасталі гучаць. Некуды таямніча згубіліся «пад 200» баевікоў з «групы Вагнера», якія, нібыта, шчыравалі ў беларускіх лясах падчас уборачнай кампаніі. Іх усіх абяцалі знайсці, дый не знайшлі.

Злівы тэлефонных размоў, як мяркуецца, Наталлі Эйсмант, Дзмітрыя Баскава і Дзмітрыя Шакуты, што нарабілі шмат шуму ў лістападзе, Лукашэнка пракаментаваў так: «Пацярпіце трошкі, на наступным тыдні ўсё раскажам. Паверце, будзе вельмі цікава». Але ні на «наступным тыдні», ні дасюль нічога цікавага мы не пачулі.

**Лукашэнка толькі рабіў выгляд, што выступае перад рабочымі, — на справе ж там была зусім іншая публіка? Тая, якая ўспрымае сур'ёзна страшылку, што, маўляў, пераможа пратэст — і вы застанецеся без працы. Для чыноўнікаў, якія развалілі завод, гэта святая праўда**

Кепска тут тое, што ўлады, ствараючы такую «віртуальную рэальнасць», самі ў яе вераць — і таму, у сувязі з гэтай віртуальнасцю, прымаюць неадэкватныя рашэнні. І гэтыя рашэнні б'юць па кішэнях беларусаў.

Сярэдні заробак бюджэтнікаў у студзені ўпаў на 101 рубель у параўнанні са снежнем 2020-га — да 1099 рублёў, паведамляе Белстат. Гэта сумы да выплаты падаткаў — значыць, на рукі атрымліваецца яшчэ менш.

Але не толькі ўлада займаецца стварэннем віртуальнасці. У мінулую суботу ў Мінску прайшоў устаноўчы з'езд нібыта прарасійскай партыі «Саюз». Яе старшынёй стаў Сяргей Лушч, які і без таго засвяціўся ў шмат якіх прарасійскіх праектах, такіх, як беларуска-расійская грамадзянская ініцыятыва «Саюз», а таксама Асацыяцыя садзейнічання інтэграцыі, міжнароднаму сацыяльна-культурнаму і дзеламу супрацоўніцтву. Праўда, пра тыя праекты ніхто не чуў, але Лушч больш вядомы тым, што быў лідарам беларускага аддзялення арганізацыі «РуМол».

Цікавыя два моманты. Першы — тое, што ад 2000 года ў Беларусі не было зарэгістравана ніводнай палітычнай партыі ўвогуле. Таму на што разлічвае «Саюз» — невядома. І другі момант: сайт грамадзянскай ініцыятывы «Саюз», сустаршынёй якой з'яўляецца Лушч, рэзка крытыкуе Лукашэнку. Узяць хаця б вытрымку з інтэрв'ю іншага сустаршыні «Саюза», Станіслава Бышка: «Любой размове аб канстытуцыйных рэформах у Беларусі павінны папярэднічаць вызваленне палітвязняў, расследаванне забойстваў і катаванняў у СІЗА на Акрэсціна, пачатак рэгістрацыі новых палітычных партый і выразныя тэрміны новых выбараў».

Дзіўна, што пры такой пазіцыі ініцыятывы «Саюз» на з'езд аднайменнай партыі не прыйшлі «невядомыя ў балаклавах». Магчыма, менавіта гэта дало падставы расійскаму палітолагу Андрэю Суздальцаву казаць, што "партыя "Саюз" ад пачатку з'яўляецца філіялам беларускага КДБ і будзе працаваць супраць Расіі за расійскія грошы».

Затое «невядомыя ў балаклавах» завіталі на ўстаноўчую сесію новай студэнцкай прафсаюзнай арганізацыі ЛіСА (Ліга студэнцкіх аб'яднанняў). Мерапрыемства праходзіла пад эгідай цалкам легальнага і зарэгістраванага Свабоднага прафсаюза Беларускага. Былі затрыманыя каля 30 чалавек, большасць з іх адпусцілі, на «суткі» асудзілі толькі чатырох.

Падаецца, «візіт невядомых у балаклавах» цяпер выразна паказвае, хто стварае віртуальныя рэчы, а хто — рэальныя.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Максім Знак

**Чальцу Прэзідыума Каардынацыйнай рады, юрысту Максіму Знаку падоўжаны тэрмін утрымання пад вартай да 9 траўня.**

Знака затрымалі 9 верасня. Яго абвінавацілі ў закліках да дзеянняў супраць нацбяспекі (частка 3 артыкула 361 КК). 25 студзеня яму ў чарговы раз працягнулі тэрмін утрымання пад вартай да 9 сакавіка, а днямі Знаку працягнулі гэты тэрмін яшчэ на два месяцы.

Дзмітрый Лаеўскі, адвакат Знака, заявіў, што мае намер абскардзіць рашэнне следства.

У той жа час родныя Максіма Знака кажуць пра тое, што ў СІЗА ён піша вершы і песні, апавяданні — іх ужо больш за семдзесят, і нават раман — гатовыя ўжо два тамы. «Мы смяёмся, што гэта ў яго творчы адпачынак, праўда, крыху зацягнуўся», — кажа жонка юрыста Надзея Знак.

«Ён прыдумляе гульні і спартовыя спаборніцтвы. Калі выходзяць на вуліцу, гуляюць у нешта накшталт "Брэйн-рынгу" і "Што? Дзе? Калі?". Усякае бывае, вядома, але большую частку Максім на пазітыве», — дадала яна.



## Марыя Калеснікава

**З Марыяй Калеснікавай здарылася цікавая гісторыя, якая зноў ілюструе прымаўку «часам не да законаў».**

Справа ў тым, што 8 сакавіка ў яе скончыўся тэрмін утрымання пад вартай. Аднак па стане на 8 сакавіка было невядома як пра магчымае працягненне гэтага тэрміну, так і пра выхад Марыі на волю. У прынцыпе, пра працяг утрымання пад вартай павінны былі паведаміць і адвакату, але адвакат пра гэта таксама нічога не ведаў.

Такім чынам, Калеснікава некаторы час утрымлівалася ў СІЗА ў невядомым працэсуальным стане і з невядомай нагоды. Толькі ў другой палове 9 сакавіка стала дакладна вядома, што ёй падоўжылі тэрмін утрымання пад вартай да 8 траўня.

Нагадаем, Калеснікаву затрымалі 8 верасня ў Мінску і спрабавалі вывезці з краіны. Яна адмовілася пакідаць Беларусь і парвала свой пашпарт. Калеснікаву затрымалі і змясцілі ў СІЗА №1 Мінска як падазраваную па крымінальнай справе за заклікі да дзеянняў, што прыносяць шкоду нацыянальнай бяспецы, учыненыя з выкарыстаннем СМІ і сеткі інтэрнэт. 12 верасня Калеснікаву перавялі ў турму ў Жодзіна, а ў пачатку студзеня — у СІЗА на Валадарскага ў Мінску.

12 лютага Марыю Калеснікаву абвінавацілі яшчэ па двух артыкулах КК — у тым ліку і ў змове з мэтай захопу ўлады.



## Алесь Бяляцкі

**Супраць пазбаўленага рэгістрацыі ПЦ «Вясна» ўлады распачалі крымінальную справу.**

Галоўным упраўленнем па расследаванні злачынстваў у сферы арганізаванай злачыннасці і карупцыі Цэнтральнага апарата Следчага камітэта РБ расследуецца крымінальная справа, узбуджаная па факце дзейнасці праваабарончага цэнтра «Вясна», кіраўніком якога з'яўляецца Алесь Бяляцкі. Справа распачатая па арт. 342 КК («Арганізацыя і актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак»). У яе межах адбываюцца актыўныя следчыя дзеянні: вобшукі, выклікі на допыты і інш.

У сувязі з гэтым праваабаронцы адзначылі, што ПЦ «Вясна» ніколі не з'яўлялася арганізатарам якіх-кольвек гвалтоўных дзеянняў і заўсёды падтрымлівала мірную рэалізацыю грамадзянскіх і палітычных свабод. Яны расцэньваюць пачатак крымінальнага пераследу па факце дзейнасці «Вясны» як чарговы пераслед «у сувязі з нашай актыўнай праваабарончай дзейнасцю з боку існуючага аўтарытарнага палітычнага рэжыму Лукашэнкі, які адбываецца на фоне беспрэцэдэнтных рэпрэсій у краіне».

Адзначаецца, што дзеянні ўладаў Беларусі груба парушаюць шэраг міжнародных пагадненняў, удзельнікам якіх з'яўляецца Беларусь, у прыватнасці, Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, Дэкларацыі аб праве і абавязках асобных людзей, груп і органаў грамадства заахвочваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды, Кіруючых прынцыпаў АБСЕ па абароне праваабаронцаў, Кіруючых прынцыпаў па свабодзе аб'яднанняў.




# Канстытуцыя: шматкроць перапісаная і не дзеючая

Міхаіл ПАСТУХОЎ,
Сяргей ПУЛЬША

**Дваццаць сем гадоў таму, 15 сакавіка 1994 года, быў прыняты Асноўны закон Рэспублікі Беларусь. Але за гэтыя гады Канстытуцыя так і не стала галоўным дзеючым законам краіны. Яе тройчы «перапісвалі» на рэферэндумах, але ніводзін з іх не быў легітымным.**

## Рэферэндум — 1995

З ініцыятывай правядзення рэферэндуму выступіў Лукашэнка. Ён прапанаваў на ўсенароднае абмеркаванне чатыры пытанні. Ці згодныя вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай? Ці падтрымліваеце вы прапанову аб усталяванні новых дзяржаўнага сцяга і дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь? Ці падтрымліваеце вы дзеянні прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, скіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй? Ці згодныя вы з неабходнасцю ўнясення зменаў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі?

Ужо ад пачатку фармулёўкі пытанняў былі незаконнымі. Яны супярэчылі Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі (прэамбуле і артыкулам 1, 2 і 3), Канстытуцыі (прэамбуле, артыкулам 17 і 78), Закону «Аб усенародным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» (арт. 3). Першае і другое пытанні груба парушалі «неад'емнае права беларускага народа на суверэнную нацыянальную дзяржаўнасць, гарантыі існавання беларускай культуры і мовы». Нельга было выносіць на рэферэндум пытанні наконт мовы і нацыянальных дзяржаўных сімвалаў.

Пытанне аб ухваленні прарасійскай палітыкі супярэчыць суверэннай нацыянальнай дзяржаўнасці. Акрамя таго, яно парушае міжнародныя абавязальніцтвы Рэспублікі Беларусь.

Фармулёўка чацвёртага пытання аб прадастаўленні прэзідэнту права спыніць паўнамоцтвы парламента «ў выпадках сістэматычнага або грубага парушэння ім Канстытуцыі» ідзе ў разрэз з нормай Дэкларацыі аб суверэнітэце, згодна з якой толькі Вярхоўны Савет мае права выступаць ад імя беларускага народа, а таксама з шэрагам палажэнняў Канстытуцыі.

Гэты рэферэндум быў прызначаны і з парушэннем працэдуры. 11 красавіка 1995 года Вярхоўны Савет 12-га склікання прыступіў да разгляду прапановы Лукашэнкі, супраць якой выступілі дэпутаты ад БНФ. У выніку ВС не падтрымаў ініцыятыву кіраўніка дзяржавы. Лукашэнка заявіў, што прыпыніць дзейнасць парламента і ўсё адно правядзе рэферэндум. У знак пратэсту дэпутаты ад БНФ абвясцілі галадоўку ў зале пасяджэнняў парламента. Уначы з 11 на 12 красавіка ў парламент уварваліся людзі ў масках, збілі і выкінулі адтуль парламентароў.

13 красавіка 1995 года ВС шляхам паўторнага галасавання прыняў пастанову аб прызначэнні рэферэндуму. Аднак паўторнае галасаванне па працэдуры не дапускалася.

Больш за тое, згодна з Канстытуцыяй, забаранялася ўносіць змены і дапаўненні ў Канстытуцыю (пытанне №4) у апошнія шэсць месяцаў паўнамоцтваў парламента. У той перыяд рэферэндум наогул не мог быць прызначаны!

Такім чынам, рэферэндум 1995 года быў незаконным. Усе дзеянні, скіраваныя на рэалізацыю пастаўленых на рэферэндуме пытанняў, варта прызнаць злоўжываннем уладай і гвалтам у дачыненні да беларускага народа.

## Рэферэндум — 1996

Праз дэпутацкае лобі ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання Лукашэнка дамогся прыняцця рашэння аб прызначэнні рэферэндуму. Лукашэнка прапанаваў: перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі) на 3 ліпеня — Дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў; прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са зменамі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі), прапанаванымі Лукашэнкам. А таксама адказаць на пытанні: «Ці выступаеце вы за свабодныя, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі?», «Ці падтрымліваеце вы адмену смяротнага пакарання?».

Былі яшчэ і пытанні ад парламента, але на іх мы спыняцца не будзем.

Пытанне аб пераносе Дня незалежнасці на 3 ліпеня было ўвогуле недарэчным, бо супярэчыла рэчаіснасці. Вядома, што Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі была прынятая 27 ліпеня, і падвяргаць сумневу гэты факт проста нельга.

Безумоўна, галоўным было пытанне аб прыняцці Канстытуцыі Беларусі «са зменамі і дапаўненнямі (новай рэдакцыі Канстытуцыі)». Для большасці суддзяў КС было зразумела, што Лукашэнка прапануе на рэферэндум новую Канстытуцыю — і тым самым адмяняе дзеючую Канстытуцыю. Аднак з-за супрацьстаяння ў складзе суда прынясць прынцыповае рашэнне па гэтым пытанні не ўдалося. У выніку КС прызнаў, што «папраўкі» не могуць выносіцца на абавязковы рэферэндум, і, адпаведна, не могуць быць уключаны ў тэкст Канстытуцыі пасля іх прыняцця.

Больш за тое, пытанне пра Канстытуцыю не магло быць вынесена на рэферэндум, паколькі на яго нельга было даць адназначны адказ. Цяжка нават зразумець, за што прапанавалася галасаваць: за змены і дапаўненні ў Канстытуцыю, за новую рэдакцыю Канстытуцыі або за новую Канстытуцыю?

Пытанне аб куплі і продажы зямлі было сфармулявана правакацыйна, бо адказ на яго чаканы. Продаж зямлі «без абмежаванняў» супярэчыць інтарэсам народа, які з'яўляецца ўласнікам усіх рэсурсаў і багаццяў на сваёй тэрыторыі.

І нават пытанне аб адмене смяротнага пакарання было складаным для разумення. Што такое адмена? Мараторый, невыкананне пакарання, пажыццёвае зняволенне? У сувязі з гэтым яно таксама не магло выносіцца на рэферэндум.

На падставе рашэння Канстытуцыйнага суда ад 4 лістапада дэпутаты парламента зрабілі галасаванне пра Канстытуцыю «рэкамендацыйным». Лукашэнка не пагадзіўся з рашэннем КС і «адмяніў» яго (указам ад 7 лістапада 1996 года №459). Ён запатрабаваў ад органаў улады, у тым ліку Цэнтрвыбаркама, праводзіць абавязковы рэферэндум па пытанні пра змены ў Канстытуцыю.

Старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар на прэс-канферэнцыі 14 лістапада 1996 года выказаў свой пратэст — і быў вызвалены ад пасады прэзідэнцкім указам. На яго месца Лукашэнка прызначыў Лідзію Ярмошыну. Будынак Цэнтрвыбаркама быў заблакаваны людзьмі ў «форме», якія не прапускалі ў яго нікога да падвядзення вынікаў рэферэндуму.

З 27 лістапада 1996 года «новая рэдакцыя Канстытуцыі» была ўведзена ў дзеянне. Легітымныя органы ўлады (Вярхоўны Савет, Кантрольная палата, Канстытуцыйны суд) былі незаконна распушчаныя.

Спецкамісія Вярхоўнага Савета на чале з Ганчаром кваліфікавала гэта як захоп дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам.

## Рэферэндум — 2004

Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2001 года стала пытанне падаўжэння тэрміну паўнамоцтваў Лукашэнкі. Асноўнай перашкодай з'яўлялася палажэнне артыкула 81 Канстытуцыі, згодна з якім адна і тая ж асоба не магла быць прэзідэнтам больш за два тэрміны. Трэба было зноў мяняць Канстытуцыю.

Чарговы рэферэндум быў абвешчаны ўказам кіраўніка Беларусі ад 7 верасня 2004 года №431 (раней прызначэнне плебісцыту было выключна прэрагатывай парламента). На абмеркаванне выносілася адно, але вельмі аб'ёмнае пытанне: «Ці дазваляеце вы першаму прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Лукашэнка А.Р. удзельнічаць у якасці кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь у выбарах прэзідэнта і ці прымаеце частку першую артыкула 81 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у наступнай рэдакцыі: "Прэзідэнт абіраецца на пяць гадоў непасрэдна народам Рэспублікі Беларусь на аснове ўсеагульнага, свабоднага, роўнага і прамога выбарчага права пры таемным галасаванні"»?

Указ уступіў у сілу на наступны дзень пасля яго выдання, калі ўжо ішла кампанія па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Рэферэндум пайшоў «у дадатак» да выбараў, якія адбыліся 17 кастрычніка.

Але такі парадак прызначэння рэферэндуму не адпавядае артыкулу 74 нават «новай Канстытуцыі». Згодна з часткай 3 гэтага артыкула, дата правядзення рэферэндуму прызначаецца не пазней чым за тры месяцы з дня выдання ўказа прэзідэнта аб прызначэнні рэферэндуму.

Калі прытрымлівацца літары Канстытуцыі, то бачна, што на рэферэндум могуць выносіцца «важнейшыя пытанні» дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Між тым, пастаўленае пытанне адлюстроўвае праблему аднаго грамадзяніна — Аляксандра Лукашэнкі, які да гэтага двойчы прыносіў прысягу на вернасць Канстытуцыі.

На рэферэндум ставілася пытанне, непасрэдна звязанае з удзелам у прэзідэнцкіх выбарах і наступным выбраннем на пасаду Лукашэнкі. Між тым, у адпаведнасці з часткай 2 артыкула 112 Выбарчага кодэкса, «на рэспубліканскі рэферэндум не могуць выносіцца пытанні... звязаныя з абраннем і вызваленнем ад пасады прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Уключэнне ў бюлетэнь для галасавання пытання, у фармулёўцы якога захоўваецца, па сутнасці, два розных паводле зместу і сэнсу пытанні (аб дазволе Лукашэнку балатавацца і аб «папраўцы» ў Канстытуцыю), таксама забараняецца Выбарчым кодэксам. Згодна з ім, «пытанне, якое выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум, павінна быць сфармулявана... выразна і ясна з тым, каб на яго быў магчымы адназначны адказ».

Нягледзячы на парушэнне парадку прызначэння рэферэндуму, недапушчальнасць пытання, пастаўленага на галасаванне, грубыя парушэнні заканадаўства пры галасаванні, рэферэндум быў прызнаны адбыўшымся. Па яго выніках былі ўнесены змены ў артыкул 81 «новай Канстытуцыі», і ў 2006 годзе Лукашэнка зноў балатаваўся кандыдатам у прэзідэнты.

## Рэзюмэ

Як бачым, усе рэферэндумы насілі неканстытуцыйны, незаконны і недэмакратычны характар. З юрыдычнага пункту гледжання, іх вынікі не маюць значэння. Гэта значыць, што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года захоўвае свой легітымны характар. Яе трэба ачысціць ад так званых «паправак» і аднавіць дзеянне. А пасля ўжо абмяркоўваць нейкія змены.

# Жышкевіч — на выхад, Калаур — падрыхтавацца?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Зазвычай я са скепсісам стаўлюся да чутак і «зліваў», якія іншым разам даходзяць праз «інфармаваныя крыніцы». Але гэтым разам першая частка ўжо спраўдзілася. Пра магчымую адстаўку Андрэя Жышкевіча з пасады старшыні праўлення Банка развіцця мне казалі за тыдзень да таго, як яна адбылася.**

Замест Андрэя Жышкевіча, які раней узначальваў МТ-Банк, прыйшоў ужо былы намеснік старшыні Беларусбанка Аляксандр Ягораў. Новага кіраўніка банка калектыву прадставіў сам прэм’ер Раман Галоўчанка. «Назіральны савет банка прыняў рашэнне аб прызначэнні Аляксандра Ягорава на пасаду старшыні праўлення. Прызначэнне ва ўстаноўленым парадку ўзгоднена з кіраўніком дзяржавы», — сказаў Галоўчанка.

Ягораў, які раней займаў пасаду намесніка старшыні Беларусбанка, прыступіў да выканання сваіх абавязкаў ужо з 9 сакавіка.

## Інсайд

Некаторыя крыніцы, напрыклад Агенцтва фінансавых навін, звязалі гэтыя кадравыя ратацыі з тым, што Жышкевіча лічылі «чалавекам Сяргея Румаса». Сапраўды, змена кіраўніка Банка развіцця адбылася пасля серыі навін пра самога Румаса, а таксама пасля паведамленняў наконт далейшага развіцця справы ў сферы дрэваапрацоўкі.

Аднак у банкаўскіх колах ходзяць іншыя чуткі. Кажуць, што змена кіраўніка Банка развіцця — гэта першае звяно ў ланцужку адставак і перастановак, што ў канчатковым выніку прывядзе да вызвалення ад пасады Паўла Калаура — старшыні Нацбанка, які, па тых жа чутках, сам даўно прасіцца ў адстаўку. Нібыта, адзін з намеснікаў Калаура будзе адпраўлены на сваю родную пасаду ў Беларусбанк, сам Калаур сыдзе ў адстаўку, а месца старшыні Нацбанка займе «чалавек Галоўчанкі». Таго самага Галоўчанкі, які казаў, што няма нічога дрэннага ў «двухзначнай інфляцыі», а калі інфляцыя не перасягне 10% — гэта будзе наогул добра. І які заяўляе, што «своечасова аказаная дзяржпадтрымка дазваляе развіваць і ўмацоўваць прадпрыемствы краіны».

То-бок, цяпер Галоўчанка праводзіць палітыку, практычна процілеглую той, якую праводзяць Калаур і Нацбанк, — апошнія імкнуцца ні ў якім разе не дапусціць уключэння друкарскага станка.


Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

## Тлумачэнне «замарозкі цэнаў»

Зрэшты, чуткі пра адстаўку Калаура ходзяць досыць даўно і безвынікова. Але цяпер яны атрымалі некаторае пацверджанне ў выглядзе чаканай адстаўкі Жышкевіча.

Варта адзначыць, што і Банк развіцця, і Беларусбанк займаюцца, у прынцыпе, адным і тым жа. Яны даюць крэдыты прадпрыемствам на мадэрнізацыю, на «падтрыманне штаноў» — і часцяком спісваюць гэтыя крэдыты «па законах ваеннага часу», не атрымліваючы вяртання выдадзеных сродкаў. Толькі нядаўна Беларусбанку было загадана спісаць даўгі пяці прадпрыемствам на агульную суму каля 7 мільёнаў долараў. А Банк развіцця ў чарговы раз заняўся звыклай усім нам «мадэрнізацыяй», абвясціўшы конкурс на інвестпраекты «па будаўніцтве, у тым ліку рэканструкцыі, малочнатаварных ферм з аказаннем дзяржаўнай падтрымкі крэдытаатрымальнікам».

Замену Жышкевіча на Ягорава можна лічыць заменай шыла на мыла. Але калі гэты «ланцужок перастановак» працягнецца ў адпаведнасці з інсайдарскай інфармацыяй, то нас чакаюць даволі цяжкія выпрабаванні. Праўда, мы праз іх ужо праходзілі, але яшчэ раз наступаць на тыя ж граблі ну ніяк не хочацца.

Па схеме «адстаўкі Калаура» становіцца зразумелым дзіўснае рашэнне ўрада па пашырэнні пераліку «сацыяльна значных» прадуктаў, лекаў і тавараў медыцынскага прызначэння, а таксама забарона павышаць цэны на гэтыя тавары больш чым на 0,2% у месяц — нашумелая пастанова ўраду №100, якую большасць эканамістаў назвалі вялікім глупствам, што вядзе да стварэння дэфіцыту і фактычна «забойства» прамысловых і перапрацоўчых прадпрыемстваў.

Пры гэтым працягнулася інфармацыйная «артпадрыхтоўка». Напрыклад, кіраўнік Камітэта дзяржкантролю Васіль Герасімаў 1 сакавіка заявіў, што разам з іншымі органамі КДК займаецца яшчэ маніторынгам цэн, і адзначыў: «У большасці сваёй цэны пайшлі ўніз». Паводле яго слоў, гэта адбылося яшчэ да таго, як Саўмін прыняў пастанову, якая абмяжоўвае штомесячнае павышэнне цэнаў па 60 пазіцыях.

У той жа час КДК займаецца і кантролем дзейнасці Нацбанка. І адносна рэгулятара той жа Герасімаў сказаў: «Меры, што прымаюцца Нацыянальным банкам па рэсурснай падтрымцы эканомікі, пакуль недастатковыя для забеспячэння зададзеных параметраў эканамічнага росту. Лічым мэтазгодным паказаць Нацыянальнаму банку на неабходнасць больш цеснага ўзаемадзеяння з урадам па забеспячэнні эканамічнага росту».

**Рашэнне ўрада аб «замарозцы росту цэнаў» — гэта той самы загад цягніку стаяць. Такім чынам «сілавікі» вырашылі «спыніць» інфляцыю ў прымусовым парадку. А значыць, можна ажыццявіць сваю мару — уключыць друкарскі станок**

Тэлеграм-канал «Эканоміка па-беларуску» пракаментаваў гэтыя словы проста: «Дарога на эмісійнае крэдытаванне эканомікі адкрытая».

Узнікае ўражанне, што «сілавікі» ва ўладзе — Галоўчанка і Герасімаў, — вырашылі прадэманстраваць кіраванне эканомікай у звыклым вайсковым стылі: «Сяржант, спыніце цягнік! — Цягнік, стой, раз-два!» Рашэнне ўрада аб «замарозцы росту цэнаў» — гэта той самы загад цягніку стаяць. Зразумела, што за месяц нічога не абваліцца, хоць ужо цяпер прадуктаў у крамах стала менш. Але такім чынам «сілавікі» вырашылі прадэманстраваць, што «спыніць» інфляцыю можна і ў прымусовым парадку. А значыць, можна патрабаваць прыбраць Калаура і ажыццявіць сваю мару — уключыць друкарскі станок для абяцанага «павышэння ўзроўню даходаў насельніцтва» і «мадэрнізацыі і індустрыялізацыі краіны». Менавіта пра «індустрыялізацыю» краіны марыць Галоўчанка.

## Сігналы з усіх бакоў

«Вайскоўцаў ва ўрадзе» можна зразумець. У той час, калі галоўнай задачай стала ўтрыманне ўлады Лукашэнкі любым шляхам і спосабам, эканоміка ператварылася ў галоўнага ворага. Прычым, законы эканомікі не можа аспрэчыць нават беларускі суд, а ВУП не адлупцуеш дубінкай. І калі прадпрыемства «лягло», загадам устаць яго не падымеш.

А тут яшчэ злева і справа паступаюць трывожныя сігналы. Рабочым цэментнага завода ў Ваўкавыскім раёне не плацяць заробкі — няма грошай. На ААТ «Нафтан», аказваецца, практычна цалкам адсутнічаюць абаротныя сродкі — з-за гэтага ён не можа фінансаваць будаўніцтва этылен-прапіленавай установкі на «Паліміры», які ўваходзіць у згаданае ААТ. А калі не пабудаваць установку, гэта можа прывесці да поўнага спынення «Паліміра» ўвогуле. Таму трэба аднекуль узяць аж паўмільярда долараў. І гэта — пасля маштабнай «мадэрнізацыі», якую, нібыта, прайшоў «Нафтан».

Наогул, дэфіцыт абаротных сродкаў назіраецца ў 54,7% прадпрыемстваў — па-простаму гэта азначае, што гэтым прадпрыемствам складана выплачваць заробак. Пра затрымкі заробкаў паведамілі з мінскага хладакамбінату №2, заробак за люты затрымалі ў Метрабудзе, і нават у РУП «БелЭЗ», што належыць Упраўленню справамі прэзідэнта і займаецца абслугоўваннем аб’ектаў асаблівага дзяржаўнага значэння (Палаца Незалежнасці, Дома ўрада, рэзідэнцый) — усіх ІТР у лютым прымусілі напісаць на 4 дні «за свой кошт», каб знізіць выдаткі.

Дый яшчэ і калегі падарунак падкінулі. Па законе «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2021 год» Мінфін прадугледжваў дэфіцыт у памеры 4,047 мільярда рублёў. Але літаральна праз месяц працы той жа Мінфін апублікаваў удакладнены план па бюджэтным дэфіцыце. Цяпер улады думаюць, што ў рэспубліканскім бюджэце ўтворыцца «дзірка» памерам 5,61 мільярда рублёў — гэта значыць, на паўтара мільярда больш, чым лічылі раней.

Таму «прыгожа» разруліць сітуацыю можна, толькі калі ўключыць друкарскі станок і раздаць грошы, якія яшчэ пахнуць фарбай, насельніцтву і прадпрыемствам. Гэты крок, цалкам магчыма, прадухіліць сацыяльны выбух — цяпер. Але потым горача адгукнецца — у стылі 2011 года — у будучыні.

Уключэнню друкарскага станка, як ужо неаднаразова казалася, пакуль перашкаджае палітыка Нацбанка на чале з Калаурам. Яны таксама не хочуць паўтору 2011, 2014 і іншых гадоў. Пакуль Нацбанк адбівае ўсе атакі — і робіць у той сітуацыі, якая склалася, што можа. А калі Калаура, у адпаведнасці з чуткамі, усё ж такі адставяць з пасады старшыні Нацбанка, і на яго месца паставяць «чалавека Галоўчанкі»?

## Нічога добрага

Калі чуткі спраўдзяцца, нават з кульгаючай валютнай і інфляцыйнай стабільнасцю ў Беларусі давядзецца развітацца. Напаўненне эканомікі «пустымі» грашыма мы праходзілі не раз. У выніку праз некалькі месяцаў пасля такіх інтэрвенцый фінансавая сістэма падала, і падымацца ёй прыходзілася ўсё цяжэй. Але варта ўзгадаць, за кошт чаго мы вылазілі з крызісаў — за кошт замежных стабілізацыйных крэдытаў. А ва ўмовах сённяшняй палітычнай сітуацыі «крэдытны» пад’ём нам больш не дасяжны.

«Сілавікі» вырашаюць пастаўленую задачу па захаванні ўлады «тут і цяпер», нават не прагназуючы, што будзе потым. У выніку мы маем шанец скаціцца ў такі крызіс, у параўнанні з якім 1990-я гады, якімі нас так палохалі, пададуцца кветачкамі.

«Звычайнаму беларусу» варта параіць уважліва сачыць за перастаноўкамі ва ўладзе. Калі Калаур усё ж пакіне сваю пасаду, гэта будзе выключным знакам: трэба купляць валюту. Але, баюся, што тады бегчы за валютай будзе ўжо позна.

# «Я яго кахаю і буду чакаць,

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Гісторыя кахання палітвязня з Брэста Віктара Панцялеева і яго нявесты Яўгеніі вартая кінасцэнару. Маладыя людзі былі разам некалькі гадоў, пасля рассталіся. Калі Віктара затрымалі, Яўгенія напісала яму ліст у СІЗА, яны памірыліся, і Віктар зрабіў дзяўчыне прапанову.**



### «Міліцыянты кажуць, што не стралялі»

Берасцейца Віктара Панцялеева затрымалі 18 жніўня, змясцілі ў брэсцкі ІЧУ, а праз некалькі дзён перавялі ў СІЗА № 7. Хлопца абвінавачваюць паводле ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса («Удзел у масавых беспарадках, які выявіўся ў гвалце ў дачыненні да асобы, пагромах, падпалах, знішчэнні маёмасці, узброеным супраціве прадстаўнікам улады»), што пагражае пакараннем ад 3 да 8 гадоў пазбаўлення волі. Пад беспарадкамі маюцца на ўвазе падзеі ў цэнтры Брэста 10 жніўня, калі ў горадзе адбываліся сутыкненні пратэстоўцаў з сілавікамі. Фігурантамі па гэтай справе праходзяць каля 70 чалавек, якіх пачалі судзіць у Брэсце 15 лютага. Судзяць групамі па 10 чалавек, сярод падсудных ёсць непаўналетні. Віктара Панцялеева праваабаронцы прызналі палітзняволеным. Калі яго будуць судзіць, пакуль невядома.

Яго нявеста Яўгенія пакуль ходзіць на суды над іншымі фігурантамі і актыўна стараецца дапамагаць не толькі свайму жаніху, але і іншым зняволеным і іх блізкім. Родныя палітвязняў арганізавалі нешта накшталт групы падтрымкі адно аднаго, пастаянна збіраюцца разам, сябруюць, падаюць скаргі і дамагаюцца вызвалення затрыманых.

Яўгенія распавядае, што ведала пра тое, што ў Брэсце 10 жніўня былі пратэсты, але сама была ў той дзень на працы, таму нічога не бачыла.

«У яго была параненая нага, адвакат сказала, што, здаецца, гумовая куля трапіла, — распавядае пра свайго тады яшчэ былога хлопца Яўгенія. — Хоць міліцыянты на судзе кажуць, што не стралялі і што гранаты ляцелі ў 20 метрах ад пратэстоўцаў, але на экране ў гэты ж час паказваюць відэа, дзе гранаты ўзрываюцца наўпрост пад нагамі».

Дзяўчына робіць усё, што можа, каб дамагчыся справядлівасці і вызваліць каханага, але пакуль мала што дае вынік. Напрыканцы лютага яна звярталася ў Брэсцкі гарвыканкам, каб сустрэцца з яго старшынёй і абмеркаваць сітуацыю з масавымі беспарадкамі і той шкодай, якая нібыта была нанесена гораду падчас іх. Але ёй адмовілі, сказаўшы, што гэта не ў кампетэнцыі кіраўніка горада. Дзяўчына абураецца:

«Мы перажываем, што ім прыпісваюць вельмі вялікую шкоду, але ніхто з нашых блізкіх не ламаў таго, што ім выстаўляюць. Тое, што шкло пабітае, — гэта гумовыя кулі ў яго ляцелі. У нас у горадзе больш бязмежжа робяць міліцыянты, чым пратэстоўцы. Не тых судзяць».

Суразмоўца зазначае, што ніхто не чакаў, што суд пачнецца ўжо 15 лютага, родныя палітвязняў лічаць, што ўлады хочуць хутчэй усіх пасадзіць.

### Сабралі разам «БМВ»

Віктар і Яўгенія пазнаёміліся каля пяці гадоў таму ў сацсетках. «Сустрэліся, паглядзелі адно на аднаго, пасмяяліся, таму што ніхто нікому не спадабаўся», — расказвае Яўгенія.

Але паступова ўсё закруцілася.

«Віця — мужчына. Ён ніколі не адмовіць у дапамозе, вельмі надзейны чалавек. Ён усё кіне, каб дапамагчы. Усе сябры за гэта яго вельмі любяць і паважаюць».

Паводле слоў дзяўчыны, Віктар захапляецца аўтамабілямі. Апошнім часам працаваў кіроўцам, а да гэтага — у рыбалоўных крамах, выдатна ведаў увесь тавар і пра ўсё мог дасканала распавесці пакупнікам.

«З хобі ў яго — "БМВ". Мы разам з ім збіралі 28-ю "БМВ", купілі дзве ці тры машыны, каб сабраць. Быў момант, калі трэба было везці здымаць з уліку машыну, а ў нас быў голы кузаў, і мы з гадзіны ночы да гадзіны дня яе збіралі», — дзеліцца Яўгенія агульным захапленнем.

Дзяўчына скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў і працавала ў Палацы культуры прафсаюзаў, арганізоўвала мерапрыемствы, канцэрты, а таксама прафсаюзныя паездкі. Яна гаворыць, што Віктар заўжды дапамагаў ёй, калі нешта было трэба, і яна таксама падтрымлівала яго.

Але ў пары бывалі і расставанні, апошняе з іх здарылася вясной 2020 года. Хоць сувязі яны паміж сабой не падтрымлівалі, усе родныя і знаёмыя працягвалі ім гаварыць, што ўсё роўна яны адно ад аднаго не ўцякуць.

### Пра затрыманне даведалася ад сябра

Сапраўды, нават пасля разрыву стасункаў у Яўгеніі заставаліся пачуцці да былога

# Як жыве сям'я Петуновых са Смаргоні

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Смаргонь — адзін з нямногіх невялікіх гарадоў Беларусі, дзе мясцовыя жыхары дагэтуль выходзяць на шпацыр у цэнтр кожны дзень. Сярод тых, хто трывае пераслед з боку міліцыі, але не здаецца, — Ілля і Вольга Петуновы.**

Пасля выбараў мясцовых прадпрымальнікаў Вольгу і Іллю Петуновых неаднаразова судзілі па адміністрацыйных артыкулах. Мы гутарылі з сям'ёй у кастрычніку, калі Вольга стала падазраванай па артыкула 188 Крымінальнага кодэкса («Паклёп»). Двух мясцовых жыхароў, Руслана Валюка і Ірыну Маркаву, 18 лютага асудзілі па гэтым артыкуле: за нібыта распаўсюд улётак з інфармацыяй, якая абражае супрацоўнікаў сілавых структур, Руслану прысудзілі два гады «хіміі», а Ірыне — два гады «хатняй хіміі». А з Вольгі Петуновай абвінавачанні знялі. Але на гэтым пераслед яе і мужа не скончыўся.

### Жыццё сям'і пасля выбараў

Ілля — расіянін, але доўгі час жыве ў Смаргоні, мае тут свой бізнес. Некалькі месяцаў таму яго пазбавілі віда на жыхарства ў Беларусі. Ён мяркуе, што гэта было зроблена менавіта за яго актыўную грамадзянскую пазіцыю.

Старэйшы сын сям'і Ваня мае разумовую адсталасць. Пасля таго, як да Петуновых прыходзілі супрацоўнікі міліцыі зператрусам па справе аб «паклёпе» ў верасні, у хлопца здарыўся прыступ эпілепсіі, стан пагоршыўся. Вольгу тады пасадзілі на «суткі», таму яна не мела магчымасці супакоіць сына.

Для таго, каб сям'я магла адпачыць, Вольга ўзяла дазвол у Следчым камітэце на паездку ў Турцыю. Аднак па вяртанні ў Беларусь Вольгу затрымалі ў аэрапорце.

— Яны шукалі ў мяне грошы, якія я быццам везла для фінансавання пратэстаў, — іранічна кажа Вольга. — Калі ўся мая сям'я прайшла пашпартны кантроль, а мяне на ім затрымалі, у мяне пачалася істэрыка. Усе паўтары гадзіны я крычала на ўвесь аэрапорт і плакала. Памежнікі і мытніцы спужаліся, супакойвалі мяне, казалі, што так трэба, хутка адпусцяць. Праўда, праз паўтары гадзіны мяне сапраўды адпусцілі.

### За скамканы дакумент — крымінальная справа

Камп'ютар Вані вярнулі толькі праз чатыры месяцы пасля вобшуку ў верасні. Ён узрадаваўся, стаў праводзіць за ім гадзіны. Аднак 27 студзеня, да сям'і прыйшлі з новым ператрусам.

— У той дзень я была на працы, а пасля паехала да сяброўкі на дзень народзінаў, — узгадвае Вольга. — Аднак, як толькі я прыехала да яе, мне патэлефанаваў Ілля і сказаў, што да нас дадому прыйшла міліцыя з пастановай на вобшук. Я выклікала таксі, і мы разам з сяброўкай рушылі дадому. У дарозе я злавалася, бо думала, што да мяне прыйшлі зноў па крымінальнай справе па ўлётках. Я прыехала, папрасіла ўсіх супрацоўнікаў міліцыі прадставіцца. Яны, у сваю чаргу, далі мне прачытаць пастанову на вобшук. І тады я з жахам пабачыла, што на мяне распачата новая крымінальная справа!

**Нягледзячы на ціск, які аказваецца на мясцовых жыхароў, яны ўсё адно штодзень выходзяць на шпацыр у цэнтр горада. Каб падзяліцца навінамі, падтрымаць адно аднаго. Калі актывістаў сталі саджаць на суткі, людзей стала выходзіць больш**

У пастанове было напісана, што Вольга з'яўляецца падазраванай у размяшчэнні інфармацыі ў тэлеграм-канале «Карнікі Беларусі»: 14 верасня туды былі скінуты звесткі пра супрацоўнікаў сілавых структур Смаргоні. Гэтыя ж звесткі былі надрукаваны на ўлётках, за распаўсюд якіх былі асуджаныя два чалавекі. «Пры ўсёй маёй актыўнай дзейнасці, я не ведала, што існуе такі тэлеграм-канал, як "Карнікі Беларусі", я думала, што такую назву носіць нейкая база звестак». У той дзень вобшукі былі і ў іншых актывістаў горада. Усе людзі, у якіх праходзілі ператрусы, з'яўляюцца падазраванымі па розных крымінальных справах.

Калі Вольга прачытала пастанову, у яе зноў пачалася істэрыка, падобная да той, якая здарылася ў аэрапорце. «Яны сказалі, што калі я не дазволю ім здзейсніць вобшук, то мяне затрымаюць. І вось гэтае слова "затрымаюць" нарадзіла ў мяне нейкі выбух. У істэрыцы я кінула пастанову на зямлю, наступіла на яе абцасам і пайшла ў дом, крыкнуўшы пры гэтым "Заходзьце!". Я была ўпэўненая, што экземпляр пастановы, які мне далі прачытаць, — мой. Але аказалася, што пастанова была ў адзіным экземпляры».

Падчас вобшуку ў Вані зноў забралі камп'ютар. Прытым, Вольга кажа, што гэты стары сістэмны блок цяжка назваць камп'ютарам. Праўда, тэлефон у Вані ўжо не забіралі: нібыта на гэта быў адмысловы загад. Аднак сам факт ператрусу зноўку пагоршыў стан хлопца, у яго здарыўся цяжкі прыступ эпілепсіі.

Аднак толькі вобшукам для сям'і той вечар не скончыўся. Супрацоўнікі міліцыі адразу ж выклікалі калег са Следчага камітэта па той прычыне, што Вольга пашкодзіла пастанову на ператрус.

— Яны рулеткай вымяралі тое месца, дзе ляжаў гэты дакумент, фатаграфавалі, — узгадвае Вольга. — Пасля ўжо мяне выклікалі ў СК, сказалі што на мяне заведзена крымінальная справа па артыкуле 377 Крымінальнага кодэкса — «Пашкоджанне афіцыйных дакументаў». Мне інкрымінуюць тое, што я знішчыла дакумент мэтанакіравана. Але ж я яго не знішчыла! У мяне проста здарылася істэрыка! Я разумею, што гэта афіцыйны дакумент, але, па сутнасці, гэта аркуш паперы.

Артыкул 377 Крымінальнага кодэкса за пашкоджанне афіцыйных дакументаў з карысных або іншых асабістых матываў прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэр-

# колькі трэба»

хлопца. Яна працягвала праглядаць яго сацсеткі. Звычайна ён быў анлайн кожны дзень, але ў жніўні перастаў заходзіць — дзяўчыну гэта насцярожыла, і яна патэлефанавала сябру Віктара, ад якога і даведалася аб затрыманні.

«Першы час у лістах ён пісаў, што яго хутка выпусцяць, усё будзе добра. Гэта працягвалася дзесьці паўтара месяца, ён будаваў планы на Новы год. А потым напісаў ліст з просьбай перадаць яму тэлевізар. Я спачатку не зразумела, бо не ведала, што ў СІЗА можна перадаць тэлевізар, думала, што гэта нейкі шыфр», — узгадвае суразмоўца.

Але напісаць былому хлопцу Яўгенія вырашылася не адразу. Спачатку яна аднесла яму перадачу ў СІЗА.

«Там была такая гісторыя: з Віцем у камеры сядзеў мусульманін. Ён увесь час маліўся на падлозе — уяўляеце, якая гэта нагрузка на калені. І Віця выкленчыў яму дыванок. І той кажа: "Я буду маліцца, каб з табой адбыўся цуд". Раніцай ён стаў маліцца, а ўвечары я перадала гэтую перадачу», — распавядае Жэня.

Спачатку яна перадавала Віктару прывітанні праз адваката, і хлопца гэта вельмі ўзрушыла. Потым яна напісала яму. У першых лістах ён распавядаў ёй нейкія турэмныя анекдоты, але паступова яна нават не заўважыла, як яны зноў сышліся. І цяпер, кажа дзяўчына, у іх усё па-іншаму.

### Прапанова ў СІЗА

Віктар стаў пісаць, што хацеў бы мець сям'ю, дзяцей, хаця да гэтага ні пра што такое не гаварыў. Аднойчы Жэні нейкім цудам дазволілі спатканне з вязнем.

«Я сяджу, на эмоцыях распавядаю яму, як у нас ідуць суды над "карагоднікамі" (яшчэ адна гучная крымінальная справа ў Брэсце, звязаная з паслявыбарчымі пратэстамі. — НЧ), а ён кажа: "Жэня, памаўчы, я проста хачу на цябе паглядзець. Я хачу з табой распісацца, давай ажэнімся, выходзь за мяне". Я тады сказала нешта накшталт "Віця, супакойся, ты ў СІЗА, выйдзеш — вырашым».», — распавядае Яўгенія пра незвычайную прапанову выйсці замуж.

Але ннядаўна яна напісала яму ліст, у якім адказала «так».

«Пасля спаткання мне прыйшоў ад Віці ліст, дзе ён піша: "Ты ў мяне — першае каханне". Гэта самыя крутыя словы, якія можна пачуць ад мужчыны», — перакананая дзяўчына.

За час зняволення Віктар Панцялееў двойчы пабываў у карцары. Калі Яўгенія пра гэта даведалася, яна двое сутак не магла есці, пабегла ў СІЗА. Да яе выйшаў намеснік начальніка ўстановы і прасіў супакоіцца і не перажываць: «Выйдзе ваш Панцялееў — вы абамлееце, ён такі прыгожы стаў».

Яўгенія зазначае, што Віктар трымаецца «на пазітыве», умовы ў яго нармальныя, адміністрацыя СІЗА — чалавечная.

«Ты можаш у любы момант падысці на КПП, зняць слухаўку і пагаварыць з начальнікам. Аднойчы — яшчэ быў жнівень — мы стаім на перадачах і да нас падыходзіць мужчына і пытаецца, можа, у нас нейкія прапановы ёсць. Я выйшла наперад і кажу, што трэба, каб крама працавала да 17, каб выбар быў. Аказалася, гэта быў начальнік СІЗА. Праходзяць два дні — і ў краме 300 пазіцый, ажно да туалетнага ёршыка».

### «Я не хачу адсюль з'язджаць»

Пасля выбараў Жэня звольнілася з прафсаюзнай працы і цяпер падпрацоўвае барменам, але прызнаецца, што хоча вярнуцца ў культуру.

«Я не магу знайсці працу ў сферы культуры. Я добры спецыяліст, я пішу класныя сцэнары, умею рабіць добрыя мерапрыемствы. Але ісці працаваць за 250 рублёў? На гэтыя грошы не выжыць», — гаворыць яна.

Нейкі час Яўгенія жыла ў Расіі. У 7 класе яна пераехала ў Брэст і закахалася ў яго: «Тут усё як трэба». Яна гаворыць, што любіць свой горад і ганарыцца ім і яго гісторыяй. І ва ўніверсітэт культуры яна пайшла таму, што любіць Беларусь і нашы традыцыі.

«Я не хачу адсюль з'язджаць. Але калі тут далей будзе ўсё працягвацца, не хачу тут расціць сваіх дзяцей».

Дзяўчына прызнаецца: у яе былі надзеі на гэтыя выбары, і было б цікава паглядзець на іншага прэзідэнта краіны.

«Калі падключылі інтэрнэт — я ўбачыла тое, што адбываецца. У мяне на вачах былі слёзы, я зразумела, што гэта — народ! Бо ў нас заўсёды было "мая хата з краю", а тут такая салідарнасць! Калі мне патрэбныя былі грошы на адваката, на перадачы — сумы шалёныя — проста так рабяты з Мінска, з якімі Віця ліставаўся, скінуліся дваром і пераслалі грошы».

А пасля аднаго з інтэрв'ю з Жэняй сталі звязвацца арганізатары вяселляў і прапаноўваць зрабіць іх з Віктарам свята.

Акурат цяпер Жэня і Віктар абмяркоўваюць гэтую падзею ў ліставанні. Яўгенія хоча, каб гэта была пышная ўрачыстасць адзін раз і на ўсё жыццё, яна гаворыць, што самыя галоўнымі гасцямі на вяселлі будуць родныя палітзняволеных, з якімі яна пасябравала. А Віктар назваў толькі пецярых сваіх сяброў, якіх хацеў бы запрасіць: пасля арышту многія ад яго адвярнуліся.

### Як падтрымаць Яўгенію і Віктара

Першы час Яўгеніі было складана перажываць зняволенне каханага чалавека. Яна распавядае, што сны, у якіх бачыла сябе разам з Віктарам, успрымала як рэальнасць, а тое, што адбывалася насамрэч, здавалася сном. Было шмат слёз, але цяпер ёй дапамагае трымацца вера ў лепшае і лісты.

«Я ведаю, што ён мяне кахае, што ён выйдзе, што ў нас з ім будзе сям'я. Хай гэта будзе праз год — я ўпэўненая, што яны не дасядзяць свае тэрміны. А як з войска чакаюць людзей? Я яго кахаю і буду чакаць, колькі трэба», — параўноўвае дзяўчына.

Яна гаворыць, што гатовая чакаць, калі спатрэбіцца, бо іншага мужчыны побач з сабой не ўяўляе. Паводле яе слоў, паміж імі ўсталявалася нейкая «касмічная сувязь»: яна зробіць белы манікюр з беларускім арнаментам, а ён ёй піша, што сніў яе з белымі пазногцямі, і дасылае паштоўку дакладна з такім жа арнаментам. І такіх супадзенняў было шмат. Часам ім сняцца падобныя сны.

На жаль, аніводная з газет, на якія падпісвалі Віктара Панцялеева, так яму і не прыйшла. А вось з лістамі праблем не было, таму вы можаце падтрымаць палітвязня, напісаўшы яму на адрас: СІЗА-7, 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

Яўгенія дзякуе людзям, якія падтрымліваюць сям'ю Віктара, і гаворыць, што яны — героі. Для родных палітвязня ўсё яшчэ актуальная дапамога ў аплаце паслуг адваката. Сродкі можна перавесці на наступныя рэквізіты:

*Картка: 5323 0800 2108 1360 да 09/23 IRYNA PANTSIALEYEVA (маці Віктара)*

*Рахунак: 405101017462 ААТ «Белаграпрамбанк», 220036, г. Мінск, пр-т Жукава, 3.*

*УНП: 100693551 S.W.I.F.T. BAPBBY2X АКПА: 00040577*

А яшчэ Жэня заклікае хадзіць на суды над берасцейцамі, якіх цяпер судзяць за масавыя беспарадкі, бо часам падчас працэсаў судовая зала напаўпустая, і гэта не надае хлопцам бадзёрасці.



мінам да двух гадоў. Вольгу ўжо вазілі ў Маладзечна на судова-псіхіятрычную экспертызу, яе вынікаў жанчына пакуль не ведае: «Які б ні быў моцны чалавек, але, калі здараюцца такія стрэсавыя сітуацыі, любы можа сарвацца, асабліва калі дома дзіця з інваліднасцю. Я казала, што гатовая заплаціць штраф, але адчуваю, што гэтым усё не скончыцца. Нашу тэхніку, якую міліцыя зноў забрала, адправілі ў Гродна на экспертызу. Канешне, ніякіх доказаў таго, што я давала інфармацыю ў тэлеграм-чат, яны там не знойдуць. Я думаю, што гэтую справу таксама закрыюць, як і папярэднюю. А вось, што будзе па апошняй заведзенай — пакуль не вядома».

### Панёс скаргу — трапіў на суткі

Пасля абвяшчэння прысуду Руслану Валюку і Ірыне Маркавай 18 лютага нехта ў фае суда выгукнуў: «Жыве Беларусь!» Пачалася мітусня. Людзей, якія там былі, старшыня Смаргонскага суда Людміла Пятрова наўпрост не выпускала з будынка. Тых, хто не паспеў вылезці праз акно, завезлі ў РАУС. У тым ліку мужа Вольгі Іллю. Яго ў хуткім часе адпусцілі, але перад гэтым забралі мабільны тэлефон — ужо другі. З гэтай прычыны Ілля на наступны дзень звярнуўся ў РАУС са скаргай на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі з патрабаваннем вярнуць яму апарат ці, прынамсі, сім-картку.

Аднак замест рэгістрацыі скаргі ў канцылярыі Іллю змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання на 72 гадзіны. За што — не патлумачылі.

— Мяне пасадзілі ў вялікую камеру, дзе таксама былі яшчэ сямёра, — узгадвае Ілля ўмовы ў ІЧУ. — Самае цяжкае выпрабаванне для мяне заключалася ў тым, што гэтыя сем чалавек усе палілі так, што ў мяне слёзы ліліся з вачэй.

Перад тым, як зайсці ў ізалятар, Ілля надзяваў маску і выпадкова разбіў акуляры, без якіх фактычна нічога не бачыць. Калі на трэці дзень яму прынеслі пратакол для азнаямлення, то ён хіба мог прачытаць толькі само слова «пратакол». Прытым Ілля прасіў паведаміць жонцы, каб яна перадала яму акуляры. Аднак Вользе ніхто нічога пра гэта так і не сказаў.

— На трэці дзень у камеру зайшоў супрацоўнік міліцыі і сказаў: «Збірайся на суд!» Я не зразумеў, шчыра кажучы, на які суд. Нас чацвярых вывелі, пасадзілі ў аўтазак і правезлі 50 метраў — гэта адлегласць паміж ІЧУ і будынкам суда.

Аднак суд адклалі, Іллю адпусцілі. Сужэнцы мяркуюць, што Іллю вырашылі затрымаць на 72 гадзіны праз тое, што ён быў на пасяджэнні суда 18 лютага. Дагэтуль працягваюцца затрыманні тых людзей, якія прысутнічалі на ім. Супрацоўнікі міліцыі вылічваюць іх па запісе з відэакамеры, што была размешчаная ў зале, дзе адбываўся працэс. Па факце выкрыквання лозунга «Жыве Беларусь!» следчыя завялі крымінальную справу. Цяпер, паводле слоў Вольгі, на допыты выклікаюць усіх, хто прысутнічаў на судовым пасяджэнні. Мясцовы актывіст, рэдактар «Новай газеты Смаргоні» Рамуальд Улан, якога ўжо дапытваюць у межах распачатай крымінальнай справы, распавёў, што з Гродна нават прывезлі дэтэктар хлусні. Прайсці яго нібыта прапаноўваюць усім падазраваным. Хтосьці пагаджаецца, а хтосьці — не.

### Сабака з чырвоным бантам

Пераслед у сям'і трываюць не толькі Ілля з Вольгай, але... і іх сабака, белы васьмігадовы самаед. Вольга часта гуляе з ім па горадзе, апошнім часам — павязаўшы на яго чырвоны бант. Падчас такога шпацыру яна зайшла ў краму, перадаўшы сабаку Іллю. Супрацоўнікі, якія, паводле слоў сям'і, сочаць за імі ў горадзе, знялі гэты момант на камеру з машыны, а пасля на падставе відэазапісу склалі на Іллю пратакол: маўляў, выгульвае сабаку без намордніка.

— Я вельмі прасіла складаць пратакол на мяне, бо заведзеная на Іллю любая адміністрацыйная справа ўплывае на статус замежнага грамадзяніна, — тлумачыць Вольга. — Я з гэтым сабакам была на ўсіх дзіцячых святах і гарадскіх мерапрыемствах. Як толькі мы недзе з'яўляліся, дык з ім адразу фатаграфаваліся, дзеці гулялі. За восем гадоў ніколі ніхто нам не сказаў пра намордзік.

Міліцыя перадала справу ў суд, аднак суд разглядаць яе адмовіўся. У выніку справу разглядала адміністрацыйная камісія пры выканкаме, дзе міліцыянеры выступалі ў якасці сведкаў. Ілля па справе знаходжання сабакі без намордніка, але з павязаным чырвоным бантам атрымаў папярэджанне.

### Працягваць жыць і змагацца

Нягледзячы на ціск, які аказваецца на мясцовых жыхароў, яны ўсё адно штодзень выходзяць на шпацыр у цэнтр горада. Каб падзяліцца навінамі, падтрымаць адно аднаго. Калі апошнімі тыднямі актывістаў сталі саджаць на суткі, людзей стала выходзіць больш.

— З 27 студзеня, калі ў нас быў вобшук, і да арышту Іллі я знаходзілася ў прыгнечаным стане, у горад не выходзіла, — дзеліцца Вольга. — Але калі ў пятніцу Ілля пайшоў у РУУС і не вярнуўся, — гэта мяне ўзбадзёрыла.

— Што цяпер плануеце рабіць? — пытаю ў сям'і.

— Будзем жыць, будзем змагацца, — кажуць Ілля і Вольга ў адзін голас.

— Ёсць верагоднасць, што Іллю дэпартуюць, — працягвае Вольга. — Тады будзем думаць, што рабіць.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Стрыптызёрка і кангрэсмен

Нечакана, але факт — многія амерыканскія СМІ ўшанавалі памяць Анабэль Мантгомеры (сцэнічны псеўданім Фані Фокс), якая памерла не так даўно на 84-м годзе жыцця. Справа ў тым, што Мантгомеры (другое прозвішча — Батыстэла) лічыцца галоўным фігурантам першага ў Злучаных Штатах секс-скандалу, які пахаваў кар'еру буйнога палітыка — Уілбура Мілса.

Ён узначальваў пастаянны бюджэтны камітэт, лічыўся адной з самых уплывовых асобаў у Вашынгтоне і прэтэндаваў на пасаду кіраўніка Вярхоўнага суда. Аднак захапленне 38-гадовай танцоркай аказалася фатальным. Нейкі час ён хаваў гэтыя стасункі, але ў выніку ўсё раскрылася. Гэта здарылася ў кастрычніку 1974-га, калі Фані выскачыла з машыны кангрэсмена ў ваду прыдарожнага басейна. Паліцыянты выцягнулі яе, а таксама затрымалі аўтамабіль з Мілсам, імя якога неўзабаве трапіла ў СМІ. Спачатку палітык спрабаваў ад усяго адмаўляцца, але фота яго агаленай сяброўкі з рознага роду вечарынак кангрэсмена ахвотна публікавала прэса. Паводзіны Мілса выклікалі ўсё большую незадаволенасць калег — і ўрэшце ён сышоў з пасады кіраўніка камітэта.

Што да Фані, то на яе звалілася слава. Ганарар за выступ у клубах часам складаў да 15 тысяч долараў. Яшчэ больш яна атрымала за кнігу «Стрыптызёрка і кангрэсмен», у якой апісала раман з Мілсам.

**Паводле расійскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. Не забывайце мовы роднай

Афіцыйны Ташкент не на жарт заклапаціўся тым, што ўзбекі-гастарбайтары ў Расіі імкліва забываюць родную мову. Толькі ў Расіі працуюць больш за два мільёны жыхароў Узбекістана.

Пры гэтым узбекскі ўрад не толькі канстатаваў праблему, але ўжо пачаў яе вырашаць. Напрыклад, расійская кампанія SPB TV паведаміла пра падпісанне пагаднення з нацыянальнай тэлерадыёкампаніяй (НТРК) Узбекістана, у адпаведнасці з якім кантэнт на ўзбекскай мове ўпершыню стане афіцыйна размяшчацца на ТБ-платформах Расіі і краін СНД. Такім чынам, ужо ў сакавіку ў Расіі пачнуць вяшчаць 12 тэлеканалаў на ўзбекскай мове. Сукупная аўдыторыя ва ўсіх зонах распаўсюджвання складзе, меркавана, не менш за 2,5 мільёна гледачоў — так гаворыцца ў прэс-рэлізе кампаніі.

Знайшліся ў праекта і крытыкі. Некаторыя лібералы лічаць, што ў Ташкенце заклапаціліся не моўным пытаннем, а тым, што іх суайчыннікі могуць нахапацца ў расійскіх медыя — больш свабодных за ўзбекскія — усякай палітычнай крамолы.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### РАСІЯ. Вярнуць прыгоннае права

На 150-годдзе адмены прыгоннага права ў расійскім грамадстве нечакана выявіліся аматары вярнуць гэты інстытут. Прычым сярод прыхільнікаў адраджэння прыгоннага права шмат тых, хто сам хоча быць прыгонным! Як аргумент прыводзіцца краіна, у якой афіцыйна маецца рабства. Гэта Маўрытанія — дзяржава ў Заходняй Афрыцы.

Урад гэтай краіны некалькі разоў спрабаваў забараніць рабства, аднак натыкаўся на гарачы супраціў саміх рабоў. Справа ў тым, што ў Маўрытаніі ўладальнікі абавязаны прадастаўляць сваім рабам жыллё, ежу і адзенне; калі раб уладкоўваецца на працу, то ўладальнік забірае ў яго заробак, але не цалкам, а частку, пакольні раб мае магчымасць сам зарабляць грошы. Таму пошукам працы рабы сябе таксама не асабліва абцяжарваюць — гэта, зноў жа, абавязак гаспадара.

Відаць, тымі ж меркаваннямі кіруюцца і расіяне, якія хацелі б адрадзіць у сваёй краіне прыгоннае права і стаць халопамі. Туга па прыгонным праве ў гэтым сэнсе вельмі нагадвае варыянт настальгіі па Савецкім Саюзе: людзі ўспамінаюць пра тыя «слаўныя часы», калі ні пра што не трэба было задумвацца, а ўсё, што трэба, за цябе вырашалі «партыя і ўрад».

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. Перавесці рускую на лацінку

У Кіеве задумаліся наконт перадачы рускай мовы лацінскай графікай. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Кіеве заявіў палітолаг Канстанцін Мацвіенка. Галоўнай прычынай незвычайнай рэформы называецца перавод у будучыні на лацінскі алфавіт украінскай мовы. Аднак з улікам таго, што вялікая колькасць украінцаў выкарыстоўвае рускую мову, лацінізацыя ўкраінскай мовы, на яго думку, не будзе мець сэнсу.

«Ва ўтылітарным, прагматычным плане рана ці позна давядзецца кадыфікаваць пераход украінскай мовы на лацінку, і нам давядзецца (нам — гэта ўкраінскаму ўраду, таму што ён будзе адказваць за кадыфікацыю) кадыфікаваць пераход рускай мовы на лацінку. Тэма ўкраінскага патрыятызму рускамоўных грамадзян — вельмі правільная, і цяпер да яе трэба вяртацца», — лічыць Мацвіенка.

Перспектывы пераходу на лацінку як рускай, так і ўкраінскай моваў пакуль цьмяныя. Але ў прынцыпе такія развагі кладуцца ў логіку заклікаў абвесціць рускую мову на Украіне асаблівай мовай. На карысць гэтага днямі таксама выступіў дырэктар МУС Арсен Авакаў, які называе сваю рускую мову «слабажанскай».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Справы, якія не маюць тэрміну даўніны

Алег НОВІКАЎ



Фота www.amnesty.org

**Алжырскія праваабаронцы патрабуюць прыцягнуць да адказнасці групу сілавікоў за катаванні палітычных зняволеных.**

Тэма катаванняў — вельмі важная частка афіцыйнай палітычнай дыскусіі ў Алжыры. Алжыр любіць прыгадваць французам жудасныя зверствы ў дачыненні да жыхароў краіны, якія змагаліся за незалежнасць у 1950–1960-я гады.

У межах той кампаніі застрашвання праз палітычных вязняў французы прапускалі электрычны ток. Іх прымушалі сядзець на разбітым шкле, сілай напаўнялі іх арганізм вадой, пакуль не распухаў жывот, а затым скакалі па іх, каб вада пачынала выходзіць з рота, вушэй, носа. Людзей прымушалі пераносіць цяжкасці, языком падмятаць дарогу, бегаць вакол дома на працягу дзесяці гадзін безупынна. Прымушалі будаваць сцэны, разбураць іх і зноў будаваць. Для навучання «мастацтву» катаванняў французы заснавалі ў горадзе Скікда нават спецыяльную школу.

Таксама алжырскі МЗС вельмі любіць вінаваціць у гвалце ў дачыненні да палітычных вязняў суседняе Марока, дзе актыўна пераследуюцца прыхільнікі стварэння незалежнай дзяржавы Заходняя Сахара. І вось тэма катаванняў нечакана бумерангам ударыла па ўладам Алжыра.

Усё пачалося ў лютым, калі студэнту Валіду Некіха высунулі абвінавачанне ў «падрыве нацыянальнага адзінства». Па гэтым артыкуле, дарэчы, падсудны, згодна з мясцовымі законамі, мог атрымаць пажыццёвы тэрмін. Доказам віны Некіха з'яўляўся актыўны ўдзел у руху Hirak — шырокай грамадзянскай кампаніі за дэмакратызацыю Алжыра. Яна, нагадаем, пачалася прыкладна два гады таму, і, дарэчы, дамаглася, каб стары прэзідэнт адмовіўся балатавацца на новы тэрмін. Акрамя таго, Некіха абвінавацілі ў тым, што ён вывесіў сцяг руху за аўтаномію правінцыі Кабіла, дзе жывуць этнічныя берберы.

Нечакана судовае разбіральніцтва аказалася не дэманстратыўнай расправай над актывістам, а выкрыццём фактаў жорсткага абыходжання з палітвязнямі. Па словах Некіха, падчас допытаў яго збівалі з прымяненнем рознага роду цяжкіх прадметаў.

Можна дапусціць, што гэта непрыемная для ўладаў інфармацыя паўплывала на незвычайна хуткае і мяккае рашэнне алжырскай Феміды. Замест пажыццёвага тэрміну Некіха быў асуджаны да шасці месяцаў турэмнага зняволення са штрафам па абвінавачанні ў «распаўсюдзе і захоўванні ўлётак, якія наносяць шкоду інтарэсам краіны».

Аднак, мяркуючы па ўсім, справа Некіха аказалася не вельмі ўнікальнай. Інакш бы на мінулым тыдні Алжырская ліга абароны правоў чалавека (LADDH) не заклікала пракуратуру пачаць комплекснае расследаванне па справе катаванняў актывістаў апазіцыі. Гаворка як мінімум пра пяць

**Нечакана судовае разбіральніцтва аказалася не дэманстратыўнай расправай над актывістам, а выкрыццём фактаў жорсткага абыходжання з палітвязнямі. Некіха, падчас допытаў збівалі і катавалі**

чалавек. Таксама называюць прозвішчы канкрэтных афіцэраў Службы бяспекі, якія датычныя да катаванняў.

Праваабаронцамі таксама былі прадстаўлены сведчанні ахвяр гвалту. Яны сцвярджаюць, што ў аддзяленнях службы бяспекі іх распраналі, катавалі электрашокерам. Некаторыя, у тым ліку юнакі, прызналіся, што былі ахвярамі сексуальнага гвалту.

Паколькі ў 1989 годзе Алжыр ратыфікаваў Міжнародную канвенцыю супраць катаванняў, якія былі забаронены Крымінальным кодэксам і Канстытуцыяй краіны, да справы падключылася міжнародная грамадскасць. Вярхоўны камісар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па правах чалавека афіцыйна звярнуўся да ўладаў Алжыра з просьбай пра «хуткае і непрадузятае расследаванне» заяў пра катаванні і сексуальныя здзекі з боку службаў бяспекі падчас утрымання апазіцыянераў пад вартай.

Ці варта спадзявацца, што ўлады Алжыра дадуць ход справе, якая можа адмоўна паўплываць на іх імідж? Каментатары на форумах асцярожныя на гэты конт. На іх думку, прыцягнуць сілавікоў да адказнасці дапаможа, хутчэй, ціск з боку вуліцы. У выпадку моцных акцый улада можа, як мінімум, ахвяраваць некаторымі функцыянерамі і запатрабаваць ад падначаленых устрымацца ад гвалту.

З іншага боку, практычна ўсе згаджаюцца, што на вынік цяперашняй гісторыі можа паўплываць нечаканы ўчынак Эмануэля Макрона. Днямі прэзідэнт Францыі прызнаў, што вядомы змагар за незалежнасць Алжыра Алі Буменджэль у 1957 годзе загінуў ад рук французаў у выніку катаванняў.

Раней, паводле афіцыйнай версіі, лічылася, што ён скончыў жыццё самагубствам. Аж да прызнання Макрона афіцыйны Парыж настойваў, што Алі Буменджэль выкінуўся з вакна. Прычым пазіцыя французскай дзяржавы не змянілася нават у 2000 годзе, калі былы кіраўнік французскіх дэсантнікаў у Алжыры прызнаў, што яго падначаленыя пасля катаванняў забілі алжырца. І вось цяпер Парыж прызнаў сваю віну. «Алі Буменджэль не здзяйсняў самагубства. Яго катавалі і затым забілі», — сказаў Макрон на сустрэчы з чатырма ўнукамі алжырскага героя.

Заяву Парыжа ў алжырскім афіцыёзе падаюць як значны знешнепалітычны поспех, як фарміраванне новага трэнду, калі былыя каланізатары прызнаюць факты ваенных злачынстваў на тэрыторыях былых калоній. Але для апазіцыйнай прэсы ўчынак Макрона — гэта таксама і сігнал алжырскім уладам на тое, што справы аб катаваннях не маюць тэрмінаў даўніны.

# Пакутнікі за мову

Алег НОВІКАЎ

**У сакавіку 1971-га на палітычнай мапе свету з'явілася дзяржава Бангладэш, вытокам незалежнасці якой стаў рух за афіцыйны статус роднай мовы.**



Фота www.ria.ru

Агульнавядома, што, калі ў 1947 годзе Брытанская Індыя здабыла незалежнасць, яе тэрыторыя была падзеленая па рэлігійным прынцыпе на дзве дзяржавы — Індыю (тут жылі вернікі індуізму) і Пакістан, які планаваўся як край мусульманаў. У склад Пакістана ўвайшла ў тым ліку і мусульманская Усходняя частка Бенгаліі.

Новастворааны Пакістан адразу выглядаў вельмі штучнай канструкцыяй. У тым ліку гэта тычылася і моўнай сітуацыі. На захадзе краіны размаўлялі на урду. На ўсходзе Пакістана дамінавала бенгальская мова. Бенгальцы (нават адукаваныя) у пераважнай большасці не лічылі патрэбным вывучаць урду, якая была распаўсюджаная за тысячы кіламетраў ад Бенгаліі.

Але так здарылася, што ад самага пачатку ў дзяржаўным будаўніцтве Пакістана вядучую ролю адыгрывалі урдумоўныя. Яны не толькі пераважалі ва ўрадзе, узброеных сілах і на дзяржаўнай службе. Тая ж сітуацыя назіралася і ў культурнай сферы. У 1947 годзе ў Карачы адбыўся так званы «адукацыйны саміт»: ён прыняў рэзалюцыю, паводле якой урду павінна была стаць адзінай дзяржаўнай моваю краіны, і нават адзінай моваю, якую павінны былі ўжываць пакістанскія СМІ.

У наступным годзе распрацоўкі саміту сталі асновай для моўнага закона, які абвяшчаў урду адзінай афіцыйнай моваю для дзяржаўнай дакументацыі і ўстаноў, у тым ліку і на тэрыторыі Усходняга Пакістана (так называлася Бенгалія). Федэральная камісія выкрасліла бенгальскую мову са спісу дазволеных прадметаў навучання, і нават выдаліла яе з грашовых знакаў.

Заканадаўчая творчасць адразу выклікала ў Бенгаліі масавыя пратэсты, якія атрымалі шырокую сацыяльную базу. Не толькі бенгальскі пралетарый, аднак і мясцовая эліта аказалася пазбаўленай магчымасці ўдзелу ў палітычным жыцці Пакістана. У авангардзе руху за абвяшчэнне бенгальскай мовы другой дзяржаўнай аказаліся студэнты ўніверсітэту ў горадзе Дака, якія ў сакавіку 1948-га выйшлі на вуліцу.

У разгар беспарадкаў у горад прыбыў генерал-губернатар Пакістана, які заявіў, што моўная праблема была створаная «пятай калонай» з мэтай падзяліць мусульман Пакістану. Ён таксама дадаў, што «урду, і толькі урду ўвасабляе дух мусульманскай нацыі і мае права быць дзяржаўнай моваю». На самай справе, як адзначаюць гісторыкі, урдумоўныя чыноўнікі, хутчэй, асцерагаліся канкурэнцыі з боку бенгальскай эліты — адукаваных людзей, многія з якіх мелі досвед адміністрацыйнай службы яшчэ ў каланіяльны перыяд.

Стабілізаваць моўныя пратэсты не атрымалася. Сваёй кульмінацыі яны дасягнулі 21 лютага 1952 года, калі некалькі дэманстрантаў загінулі ад куль паліцыянтаў. На наступны дзень у горадзе сабралася больш за 30 тысяч дэманстрантаў, якія падпалілі офісы ўрадавых выданняў. Паліцыя зноў адкрыла агонь па пратэстоўцах. Зноў былі ахвяры, сярод якіх — дзевяцігадовы хлопчык.

Уначы 23 лютага студэнты Дакі ўсталявалі «помнік пакутнікам», які праз тры дні, 26 лютага, быў разбураны паліцыяй. Аднак жорсткае падаўленне пратэстаў у горадзе не змагло спыніць рух за дзяржаўны статус бенгальскай мовы. Пачынаючы з 1952 года бенгальцы сталі нефармальна адзначаць 21 лютага як «Дзень пакутнікаў». На першую гадавіну пратэстаў многія жыхары Усходняй Бенгаліі ў знак салідарнасці з пратэстоўцамі надзелі чорныя бэджы. Большасць офісаў, банкаў і адукацыйных установ 21 лютага зладзілі выходны. Мітынг у абарону статусу роднай мовы сабраў каля ста тысяч чалавек.

**Саступкі з боку цэнтра былі зробленыя вельмі позна. Па ходзе моўных пратэстаў бенгальскія нацыяналісты ўпершыню задумаліся наконт стварэння асобнай дзяржавы**

Улада яшчэ нейк спрабавала перахапіць ініцыятыву. Напярэдадні «Дня пакутнікаў» у 1954-м афіцыёз пагражаў калектыўнымі арыштамі, паколькі «ўсе, хто хочуць атрымання афіцыйнага статусу бенгальскай мовы, з'яўляюцца ворагамі дзяржавы, агентамі Індыі і камуністамі». Мясцовыя жыхары праігнаравалі пагрозы і паліцэйскія абмежаванні. У краі зноў прайшлі шматлікія дэманстрацыі, а ўніверсітэт Дакі падняў чорныя сцягі ў знак жалобы. Пасля дэманстрацый паліцыя затрымала некаторых удзельнікаў, але пазней усіх вызвалілі.

Маштаб акцый 21 лютага 1954 года прымусіў цэнтр адкруціць гайкі. У тым жа 1954-м урадавая партыя «Мусульманская ліга» падтрымала ідэю пра наданне афіцыйнага статусу бенгальскай мове. Яшчэ праз два гады, у 1956-м, адпаведны статус бенгальскай быў прапісаны ў Канстытуцыі. У той год «Дзень пакутнікаў» упершыню прайшоў без паліцэйскіх рэпрэсій.

Праўда, ці не адразу стала зразумела, што саступкі з боку цэнтра былі зробленыя вельмі позна. Па ходзе моўных пратэстаў у шматлікіх бенгальцаў узнікла думка пра неабходнасць дасягнення больш шырокай аўтаноміі ў рамках Пакістана. Найбольш радыкальныя бенгальскія нацыяналісты ўпершыню задумаліся наконт стварэння асобнай дзяржавы.

Таму ледзь не адразу на адрас цэнтра было высунута новае патрабаванне — перайменаваць Усходні Пакістан у Бангладэш, што азначае «Краіна бенгальцаў». Пачалася новая фаза канфрантацыі з цэнтрам, якая з часам прывяла да шэрагу палітычных крызісаў, абвяшчэння незалежнасці 27 сакавіка 1971-га, да вайны бенгальцаў з Пакістанам пры падтрымцы Індыі, і, нарэшце, рашэння Ісламабада прызнаць у 1972 годзе былую правінцыю ў якасці асобнай дзяржавы, якая абрала сабе назву Бангладэш.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, з якімі здабывалася незалежнасць, бенгальцы не забылі пра крыніцу сваёй дзяржаўнасці. У 1999-м урад Бангладэш адправіў афіцыйны запыт у ЮНЕСКА пра стварэнне памятнай даты 21 лютага — «Дня роднай мовы». На 30-й сесіі ЮНЕСКА 17 лістапада 1999 года прапанова была падтрыманая аднагалосна.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Таццяна Буцкая



Старшыня Савета «Маці Расіі», прэзідэнт Асацыяцыі спажыўцоў і вытворцаў дзіцячых тавараў і паслуг, пакуль, напэўна самая незвычайная кандыдатка, якую, калі верыць чуткам, Крэмль збіраецца вылучыць на думскія выбары па Маскве ў статусе незалежнага палітыка.

Раней Буцкая праславілася прапановай увесці падатак на бяздзетнасць, які існаваў у СССР з 1941 года, але быў адменены пасля распаду Савецкага Саюза. Выклікаў рэзананс і яе апошні праект. Яна прапануе ўвесці прафесійны стандарт для маці. «Маці — гэта, па-сутнасці, кругласутачная прафесія. Калі б была магчымасць працаваць маці, гэта падтрымалі б многія жанчыны. Але, каб гэта аплачвалася, усё павінна быць прапісана: патрабаванні, рэгламент. Аплачваць працу маці дзяржава можа як працу дзяржслужачых, хоць магчымыя і іншыя варыянты», — прапануе Буцкая.

Падобныя заявы зрабілі ёй скандальную вядомасць і нават імідж нейкага «фрыка», але менавіта на гэта робіць стаўку адміністрацыя. Многія людзі, як лічаць палітолагі, будуць галасаваць за такіх асобаў. Па-першае, «фрыкі» не асацыююцца наўпрост з уладай, хоць іх лаяльнасць Пуціну не выклікае сумневу. Па-другое, стартавая вядомасць «фрыка» заведама вышэйшая, у тым ліку ў параўнанні з апазіцыйнымі кандыдатамі.

Застаецца дадаць, што на выбары ў Думу, па чутках, улады збіраюцца таксама выставіць вядомага акцёра Дзмітрыя Пяўцова, вядучага тэлепраграм пра жывёл Цімафея Бажэнава, удзельніка тэлевізійных інтэлектуальных гульняў Анатоля Васермана і іншых незвычайных асобаў.

### Петэр Сіярта



Кіраўнік дыпламатычнага ведамства ў кабінеце венгерскага прэм'ера Віктара Орбана, які ўвесь час сварыўся з Брусселем, таму што Венгрыя арыгінальна трактуе стандарты дэмакратыі, цяпер пераключыўся на Браціславу.

Канфлікт пачаўся, калі славацкі парламент прыняў рашэнне змяніць закон аб грамадзянстве. Справа ў тым, што падвойнае грамадзянства ў гэтай дзяржаве цяпер строга забароненае. Калі ў нейкага славака знойдзецца пашпарт іншай дзяржавы, атрыманы без адмовы ад грамадзянства Славакіі, яго пазбаўляюць славацкага пашпарта.

Менавіта тут венгерскія ўлады зноў выйшлі на арэну. Сіярта адкрытым тэкстам заявіў, што Будапешт таксама хоча прыняць удзел у дыскусіях па змене славацкага заканадаўства. МЗС Славакіі акуратна адказала, што лічыць недапушчальным удзел замежнікаў у прыняцці ўнутрыпалітычных рашэнняў краіны. Але гэта не спыніла Сіярта. Ён адправіўся з няўзгодненым візітам на поўдзень Славакіі, у горад Камарна, дзе больш за палову насельніцтва складаюць этнічныя венгры, каб абмеркаваць заканадаўства аб грамадзянстве Славакіі. Пасла Венгрыі адразу выклікалі ў славацкае МЗС — і заявілі, што дзеянні Сіярта «перайшлі ўсе межы».

Цяпер скандал вакол новага закона працягваецца, і шмат у чым яго вынікі будуць вызначаць лёс рэжыму Орбана. Справа ў тым, што замежныя венгры, калі ім даюць пашпарты Венгрыі, як сведчыць практыка, амаль стопрацэнтна галасуюць за партыю Орбана.

### Сі Цзіньпін



Старшыня Кітайскай Народнай Рэспублікі (КНР) і генеральны сакратар Кампартыі КНР асабіста зацвердзіў план рэформы выбарчай сістэмы Ганконга, які быў прадстаўлены на сесіі Усёкітайскага сходу народных прадстаўнікоў.

Нагадаем, што апошнія пару гадоў у Ганконгу, які ў 1997 годзе быў перададзены Вялікабрытаніяй Кітаю, адбыліся маштабныя акцыі пратэсту. З чэрвеня 2019 года жыхары горада сталі масава мітынгаваць супраць абмежавання аўтаноміі горада. Пекін адказаў рэпрэсіямі — у прыватнасці, прыпыніў працу заканадаўчага органа, дзе засядалі шмат апазіцыянераў-дэпутатаў. Адначасова была анансаваная рэформа самакіравання Ганконга, якую нарэшце агучылі.

Сутнасць змяненняў — у тым, што горад «павінен кіравацца патрыётамі». На справе гаворка ідзе пра змяненне працэдуры фарміравання калегіі выбаршчыкаў Ганконга — органа, які абірае кіраўніка ганконгскай адміністрацыі. Цяпер у большасці ў ёй будуць прадстаўленыя прыхільнікі Пекіна. Акрамя таго, калегія выбаршчыкаў не толькі зможа абіраць большасць сябраў Заканадаўчага савета Ганконга, але і кантраляваць працэс вылучэння ўсіх кандыдатаў у дэпутаты.

Апазіцыя, якую ніхто ў камісію не возьме, раскрытыкавала рэформу, убачыўшы ў ёй негатыўныя наступствы для дэмакратычных прынцыпаў. Зрэшты, рэсурсу супрацьстаяння планам Пекіна пасля апошніх рэпрэсій у яе няма.

# МАК: «Пакідаем за сабой права разгледзець любыя далейшыя дзеянні»

Сяргей КАЙКО

**Вечарам 8 сакавіка з боку швейцарскіх Альпаў прыляцела гучная навіна. Міжнародны алімпійскі камітэт адмовіўся мець справу з новым кіраўніцтвам НАК Беларусі.**



Фота www.tut.by

Па выніках свайго пасяджэння выканкам МАК катэгарычна пастанавіў: Віктара Лукашэнку прэзідэнтам арганізацыі — не прызнаваць. Усе санкцыі, накладзеныя на алімпійскі Мінск, пакінуць у сіле. Дзмітрый Баскаў па-ранейшаму — персона нон-грата для любых мерапрыемстваў пад эгідай ведамства Томаса Баха.

«МАК расчараваны, што НАК не ўлічыў інфармацыю з нашага папярэдняга рашэння ад 7 снежня, дзе мы паказалі, што беларускі бок робіць недастаткова для абароны спартсменаў ад дыскрымінацыі па палітычнай прыкмеце», — гаворыцца ў заяве Лазаны, распаўсюджанай пасля заканчэння панядзелкавай працы.

Заява разам з прынятымі рашэннямі прагрукатала па інфармацыйнай прасторы, не на жарт узбудзіла беларускае грамадства і пакінула пасля сябе пытанні, на якія мы сёння паспрабуем адказаць.

### Лукашэнка замест Лукашэнкі

Зрэшты, на пачатку трэба адматаць плёнку крыху назад, бо на старонкі папяровага «Новага Часу» не патрапіў папярэдні эпізод гэтага захапляльнага серыялу. І хаця мы ўпэўненыя, што чытачы «НЧ» жывуць не ў цёмным лесе і інфармацыю спажываюць з розных крыніц, законы жанру ніхто не адмяняў.

Дык вось. Пасля таго, як у снежні МАК абклаў беларускі НАК жорсткімі санкцыямі — а канкрэтна абвясціў нелегітымным старое кіраўніцтва на чале з Аляксандрам Лукашэнкам, — мяч перайшоў на беларускі бок. Са словамі: калі вы, хлопцы, у сваёй кансерваторыі нешта падправіце ды спыніце пераслед сваіх спартсменаў, то і мы аблогу здымем. Бо не звяры ж, давайце жыць дружна.

Ад Мінска чакалі практычных захадаў, галоўны з якіх — перабраць у НАК новае кіраўніцтва, адправіўшы ў тыраж старое. Фактычна, МАК, выдатна бачачы вытокі ўсіх працэсаў у Беларусі, запатрабаваў сыходу Лукашэнкі-старэйшага, які кіраваў Нацыянальным алімпійскім камітэтам ажно з 1997 года.

Аляксандр Рыгоравіч ультыматум сустрэў нервова, назваў менеджмент МАК «бандай Баха», але ўсё ж вырашыў швейцарскія вочы больш не мазоліць. 26 лютага падчас алімпійскага сходу ён афіцыйна пакінуў пасаду, якую займаў амаль чвэрць стагоддзя. Гэта была сенсацыя, бо як жа — Лукашэнка больш не прэзідэнт, хай сабе і толькі НАК.

Праўда, сказаўшы «а», «б» ён так і не вымавіў. Прызначыў (будзем называць рэчы сваімі імёнамі) уласным пераемнікам сына Віктара — экс-першага намесніка і чалавека таксама неправамоцнага, з таго ж санкцыйнага спісу. Ну і, каб мала ім там, у Еўропе, не падалося, у новы выканкам НАК са старога паспяхова перавандравалі яшчэ некалькі непажаданых персон з Баскавым у авангардзе.

Па сутнасці, гэта была костка, кінутая Баху. Маўляў, хопіць з вас адрачэння караля — ферзь і іншыя буйныя фігуры застануцца на месцы.

Зрабіўшы такі няхітры гамбіт, у Мінску сцішыліся і сталі чакаць эфекту. Мяч паляцеў назад у бок Жэнеўскага возера.

### Ад Японіі да Кітая

Адразу было відавочна, што адказ на «костку» можа быць вельмі жорсткім. Што Бах і К маюць усе падставы, юрыдычныя і маральныя правы, каб шматкроць узмацніць санкцыйны ціск. Аж па самую плеху — абвясціць па-за законам агулам увесь беларускі НАК.

Пры гэтым — такія правілы — самі айчынныя спартсмены ад міжнароднай ізаляцыі пацярпелі б мінімальна. Яны б паехалі спаборнічаць у алімпійскі Токіа ў адпаведнасці з заваяванымі ліцэнзіямі. Не «паехаў» бы толькі НАК, а разам з ім — і яго юрысдыкцыя. То-бок, на Гульнях у Японіі мы б не ўбачылі дзяржаўнага чырвона-зялёнага сцяга і не пачулі б гімна на музыку Нестара Сакалоўскага. Былі б, як «бязродныя» расіяне, пакараныя за допінг, — пад нейтральнай алімпійскай сімволікай.

Менавіта такое развіццё падзей прагназавалі многія, і не толькі спартыўныя, аглядальнікі. Менавіта да гэткіх высноваў быў, напэўна, гатовы і сам НАК, знаёмы з механікай сіметрычных адказаў. Аднак у Швейцарыі вырашылі інакш. Новае кіраўніцтва — і персанальна Лукашэнку-сына — не прызналі, фінансавае эмбарга пакінулі ў сіле, выказалі класічную заходнюю «заклапочанасць»... Ну і хіба што асобным пунктам прапісалі ў выніковых дакументах забарону на наведванне Алімпіяды для высокапастаўленых беларускіх дзяржслужбоўцаў.

Вы ўсё правільна зразумелі — выглядае, што гэты допіс асабіста для Аляксандра Лукашэнкі. Цяпер ён не зможа ні пры якіх абставінах аб'явіцца летам у Токіа ў якасці афіцыйнай асобы. Толькі як прыватны візітант, і тое, калі паспее купіць квіток у цэнтральны сектар. Тое ж самае, што асабліва цікава, распаўсюджваецца і на зімовыя Гульні–2022, якія пройдуць у Пекіне. Гэта значыць, што АГЛ на спаборніцтвы па хакеі ці біятлоне не мае права акрэдытаваць нават усёмагутны кітайскі сябар Сі Цзіньпін.

**МАК у любы момант можа пакараць НАК максімальнымі санкцыямі, а беларускую зборную на Гульнях пакінуць без гімна-сцяга і іншых прыкмет дзяржаўнай суб'ектнасці. На гэта ў яго ёсць чатыры месяцы**

### «Рэал палітык»?

І ўсё ж застаецца пытанне з галіны спартыўнай паліталогіі: чаму МАК так слаба адрэагаваў на здзеклівую ракіроўку ў Мінску? Чаму не закруціў гайкі — хай не да ўпору, але проста мацней?

Як часта бывае, на гэты конт ёсць два тлумачэнні — простае і складанае.

Простае — гэта хрэстаматыйная еўрапейская нерашучасць, памножаная на «рэал палітык». Маўляў, і так жа далі разьму ў рэбры — хай Еўрасаюз ці Злучаныя Штаты хоць нешта падобнае зробяць са сваімі смяхотнымі і сімвалічнымі санкцыямі. Да таго ж у палітыцы МАК — як і ў іншых міжнародных федэрацыях — найвышэйшай каштоўнасцю пазіцыянуецца чалавек, спартсмен і яго правы. Забіраць у лёгкаатлетаў ці весляроў сцяг і гімн праз кіраўнічае блюзнерства чыноўнікаў... Ці не занадта тоўстую габлюшку здымаем? Тым больш сцягі — гэта яшчэ і заўзятары. А што там у Беларусі адбываецца паміж нацыянальнай БЧБ-сімволікай і дзяржаўнай ЧЗ — тое не відаць з далёкіх альпійскіх вышынь.

А тут яшчэ і адмысловы ліст з Мінска прыйшоў — разам з іншымі дакументамі — ад камісіі спартсменаў. Там, канешне, шмат лухты, асабліва пра тое, што «палітычная сітуацыя ў краіне супакоілася, а атлеты і трэнеры, якіх спрабавалі выкарыстаць у палітычных мэтах і ўцягнуць у палітычныя пытанні, не падвяргаюцца дыскрымінацыі». Але ж так старанна адпраўнікі пішуць-просяць захаваць за імі сімволіку і права ўздымацца з ёю на п'едэстал — як тут не расчуліцца, як не пашкадаваць людзей, для якіх удзел у Алімпіядзе — мара жыцця. То няхай пакуль кантрольны стрэл пачакае, а патрон застанецца ў патронніку. Балазе да Гульняў яшчэ чатыры месяцы — паглядзім, можа сітуацыя неяк і заспакоіцца.

Такая вось простая чалавечая логіка, уласцівая для заходніх функцыянераў-эмпатаў. Зрэшты, ёсць і логіка няпростая.

### Мінск на ланцужку

Аднак не трэба лічыць саноўнікаў МАК надта наіўнымі і сентыментальнымі. І інфармаванасць іх не варта недаацэньваць — гэта будзе непавага да Фонду спартыўнай салідарнасці, які яўна дапамог еўрапейцам разабрацца ў візантыйскіх хітраспляценнях беларускага спорту.

І вось, разабраўшыся, кемлівыя макаўцы вырашылі ўстрымацца ад татальнага астракізму лукашэнкаўскага НАК. Чаму? Таму, што жалезная завеса пакіне беларускіх спартсменаў сам-насам з сістэмай. І тая можа зрабіць з імі што заўгодна — і ніякі Захад ужо ні на што не паўплывае. Бо галоўны — ён жа апошні — козыр выкладзены, а болей картаў у МАК проста не засталося.

Гэта нельга назваць фінальным кітайскім папярэджаннем і тым больш нейкім міфічным шанцам, бо ў Еўропе даўно ўсвядомілі недамоваздольнасць беларускіх уладаў. Гэта трэба называць клопатам пра атлетаў, якіх, спаліўшы масты, абараніць будзе ўжо немагчыма.

Бо рэпрэсіі — яны ў Беларусі як тое «свята», якое заўсёды з табой. Рэпрэсіі працягваюцца, толькі прынялі больш вытанчаныя формы. Ужо няма тых тапорных звальненняў-адлучэнняў, як гэта адбылося ў выпадку з Аляксандрай Раманоўскай, Мікалаем Казекам, дзюдаістамі, лёгкаатлетамі. Ужо няма таго непрыхаванага самадурства, пра якое сведчыў у інтэрв'ю хакейны спецыяліст Аляксандр Румо. На сустрэчы са старшынёй федэрацыі Баскавым ён пачуў, што, каб працаваць у беларускім хакеі, «ты павінен падтрымліваць уладу і генеральную лінію партыі».

Цяпер сітуацыя мае такі характар, што з юрыдычнага боку не падкапаешся. Напрыклад, нядаўна ў жаночую гандбольную зборную краіны не запрасілі дзвюх дзяўчат, якія яшчэ ўчора лічыліся незаменнымі. Гэта Валянціна Несцярук і Карына Ёжыкава. Іх адсутнасць лёгка патлумачыць любой міжнароднай інстанцыі — на ўсё, маўляў, воля трэнерскага штаба. А тое, што гэтыя гандбалісткі ў жніўні падпісалі адкрыты ліст за сумленныя выбары і супраць гвалту — толькі супадзенне.

МАК у любы момант можа пакараць НАК максімальнымі санкцыямі, а беларускую зборную на Гульнях пакінуць без гімна-сцяга і іншых прыкмет дзяржаўнай суб'ектнасці. На гэта ў Баха і яго калег ёсць чатыры месяцы. Цягам гэтых месяцаў яны будуць трымаць алімпійскі Мінск хоць на якім, але ланцужку. І ўважліва сачыць, каб спартсмены спакойна рыхтаваліся да Гульняў — і каб ні ў кага з іх раптоўна не скончыўся кантракт альбо не выявіліся прагулы.

Уласна, у панядзелкавым рэлізе МАК так і пазначыў: мы працягнем маніторыць сітуацыю ў Беларусі і «пакідаем за сабой права разгледзець любыя далейшыя дзеянні». З таго часу НАК папярэджаны: любыя хітрыкі і чарговая непавага да алімпійскай хартыі будуць мець ганебныя наступствы.

Так што гэтая гісторыя пакуль не скончаная.

# «Я чула, што ў Слуцку збіраецца Беларусь…»

Ніна СТУЖЫНСКАЯ

**Рух нацыянальнага Адраджэння першай чвэрці ХХ стагоддзя, нацыятворчыя працэсы на руінах Расійскай імперыі ўзнялі хвалю сацыяльнай актыўнасці жанчын. Што вельмі нагадвае такі ж уздым жаночай дзейнасці ў 1990-я гады, калі як гарох з развязанага меху пасыпаліся жаночыя грамадскія ініцыятывы і арганізацыі.**



Выразны жаночы твар палітыкі мы назіралі і назіраем у нашы дні. І гэта не марш пустых рондаляў, а ўдзел у палітычным вызвольным руху.

Працэс фарміравання нацыянальнай эліты, рухавіку прагрэсу ў сваёй краіне прадугледжвае з'яўленне адукаваных, палітычна свядомых, пасіянарных «дачок нацыі». Яскравых прыкладаў удзелу жанчын у экстрэмальных формах барацьбы за лепшую будучыню, нават са зброяй у руках у гісторыі Беларусі хапае.

## Слуцкія жанчыны

У другой палове 1990-х гадоў нехта падказаў мне, што на вуліцы Кнорына ў Мінску жыве дачка аднаго з арганізатараў Слуцкага паўстання Георгія (Юркі) Лістапада Ніна Лістапад. На той момант я перажыла сапраўдны шок. Як яна і яе маці захаваліся ў жыцці пасля трагічнага жыццёвага фіналу Лістапада? Пасля жорсткага пераследу, трох арыштаў Георгій Лістапад у 1938 годзе быў расстраляны ў 5-м аддзяленні БАМлагу.

Жаночы след у Слуцкіх падзеях застаўся амаль незаўважаным. Такая традыцыя гендарнай няроўнасці, калі жанчыны застаюцца ў ценю вялікай палітычнай гісторыі. Пра іх учынкі, матывацыю, самаахвярнасць мы амаль нічога не ведаем. Няма сюжэтаў, якія былі б прысвечаны маці афіцэраў і шараговых Слуцкай Брыгады. А хто служыў у шпіталі, які быў разгорнуты ў Семежава?

Шырока вядомы здымак сцяга Першага Слуцкага палка БНР, які жанчыны вышылі і перадалі паўстанцам з кранальным узнёслым надпісам: «Тым, што першыя паўсталі ды пайшлі ўміраць, каб жыла Бацькаўшчына». На жаль, імя жанчын крыніцы не раскрываюць. Сярод дзеячаў Беларускага фронту прамільгнула імя Любы Зяньковіч, партыйнай актывісткі, кур'ера Рады Случчыны. Яна выконвала складаныя рызыкоўныя заданні па дастаўцы інфармацыі, грошай з Мінску для паўстанцаў. Вядома, што Любоў эміґравала ў Прагу, там скончыла ўніверсітэт, выйшла замуж.

Сяргей Бусел, адзін з актыўных дзеячаў партыі Беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў і рупліўцаў беларускай справы, які пакінуў успаміны пра драматычныя дні напярэдадні паўстання, згадаў «памятны для яго дзень». У хату прыбегла «кабета-суседка ды й кажа мне: "Чаго ты тут сядзіш? Я чула, што ў Слуцку збіраецца Беларусь"». Яна літаральна ўзняла юнака з лавы, дала ў плечы — і хлопец рушыў у Слуцк на фурманцы, якую ахвяравала яму вясковая грамада. Такія гісторыі з прысутнасцю жанчын у тых падзеях не часта, на жаль, сустракаюцца ў дакументальных сведчаннях. Фрагмент невялічкі, але вельмі глыбокі па змесце, перадае настроі вясковых жанчын.

Маці згаданай Ніны Лістапад Марыя Стагановіч і яе сястра Людміла Стагановіч — выбітныя актывісткі Беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, яе найбольш паспяховай Слуцкай філіі, партыі, якая адыграла ролю арганізатара Слуцкага паўстання ўвосень 1920 года. Амаль кожная вёска на Случчыне, дзе адкрылася ў той час беларуская школа, мела, па-першае, гурток беларусазнаўства, па-другое — эсэраўскую суполку.

З 1917 года крок за крокам услед за слуцкай «Папараць-кветкай» набывала вядомасць «Зарніца» — культурна-асветніцкі гурток у вёсцы Старыца (цяпер Капыльскі раён). Напярэдадні новага, 1918 года, газета «Вольная Беларусь» надрукавала Статут арганізацыі і спіс 12 сябраў, сярод іх — настаўніцы Марыя і Людміла Стагановіч. Яшчэ ў лістападзе 1917-га гурток выступіў з праграмай, якая прадугледжвала змаганне за Беларусь, беларускую мову ў школах, пабудову беларускага войска. Галоўнай турботай «Зарніцы» было набыццё беларускіх кніжак. Жанчыны звярталіся нават у агітацыйна-выдавецкі аддзел Беларускага Нацыянальнага камітэту ў Петраградзе з просьбай выслаць «накладною платаю» кніжкі па беларускіх палітычных пытаннях, матэрыялы Першага Беларускага кангрэсу, штотыднёвік «Чырвоны шлях» і «Беларускую крыніцу».

Беларуская школа, яе маладыя настаўніцы рыхтавалі глебу для нацыянальнага ўздыму.

## Справа «Крот»

Праглядаючы фонд Мінскай турмы, я натрапіла на так званую «справу 14» 1921 года. Дакументы — а гэта танюткія сшыткі, на жаль, з мінімумам інфармацыі пра арыштантаў — мелі прыпіску, што «справа 14» адносіцца да чэкісцкай аперацыі «Крот» па ліквідацыі контррэвалюцыйнай арганізацыі ў Слуцку. На ўсіх дакументах суправаджальны надпіс: «Накіраваць следчаму Шульману». Аперацыю па знішчэнні пратэснага руху ў Слуцку і павеце ўзначальваў чэкіст Аркадзь Шульман, які адзначыўся ў дакументах партыйнай кантрольнай камісіі як хабарнік і забойца.

У верасні 1921 года, як сведчаць архівы рэвалюцыйнага ваеннага трыбунала, у гэтую ўстанову звярнулася Цэнтральная кантрольная камісія пры ЦК ВКП(б) з просьбай даслаць справу па абвінавачванні ўпаўнаважаных ЧК Шульмана і Кетлінга ў збіцці арыштаваных у Слуцку. Гэта якраз падчас ажыццяўлення аперацыі «Крот» чэкісты далі волю рукам. Водгукі пра геройствы і свавольства дзяржынцаў дакаціліся да Масквы, але гэта не паўплывала на іх кар'еру. Следчы Шульман не трапіў у зорны шэраг нкусаўцаў. Пра яго вядома няшмат, толькі тое, што паходзіў з Херсону.

У турэмных крыніцах па справе «14» фігуруюць знаёмыя нам імёны Людмілы Стагановіч і Марыі Стагановіч (Лістапад).

Слуцкая турма мела кепскую славу. Пасля таго, як адна з арыштаваных жанчын (гэта была Марыя Стагановіч) падчас допыту ў Слуцкім ДОПРы (Дом грамадска-прымусовых работ) паспрабавала скончыць жыццё самагубствам і нарабіла ляманту на ўсю турму, і нават на ўвесь горад, таму што следчы спрабаваў яе згвалціць. Павятовы пракурор мусіў завесці справу на следчага, дзе адзначыў, што арыштаваных Асобым пастом памежнага аддзялення дзяўчат следчы Давід Бярозкін распранаў дагала быццам бы для вобшуку… Дзяўчына спрабавала выкінуцца з вакна. Дзеянні былі прызнаны «дыскрэдытуючымі чэкіста». Следчага Бярозкіна і яго сябра Вішнеўскага, якія не прадухілілі дзеянні чэкіста, а наадварот, дапамагаў трымаць жанчын, судзілі. Нават паўгода гвалтаўнікі правялі ў асобных (як чэкісты і гвалтаўнікі) камерах Мінскай турмы, але вельмі хутка аказаліся на волі.

Марыя была тэрмінова пераведзеная ў Мінскую турму. Так пачынаўся шлях пакутаў, які прывёў яе пасля гібелі мужа ў Ашхабад. Там, у Туркменіі, яна затрымалася надоўга. Там і ўратавала жыццё разам з дачкой Нінай. Цікава, што гэту гісторыю ўпершыню я пачула з вуснаў Ніны Георгіеўны, але гісторыя гвалту быццам бы адбылася з сястрой Людмілай. А з архіўных крыніц, якія асвятлялі нахабнае самавольства двух маладзёнаў у Слуцкай турме ў адносінах да маладых жанчын, я даведалася, што менавіта яе маці перажыла жудаснае выпрабаванне. Траўма была такой сілы, што жанчына распавяла сваім блізкім аб перажытым, але гераіняй гісторыі стала яе сястра.

## Контррэвалюцыйнае гняздо

Антысавецкія групы (Камітэты) існавалі амаль у кожным горадзе на беларускай савецкай тэрыторыі. Слуцк не быў выключэннем. Горад і пасля паўстання не заціхаў, актыўнасць віравала ў падполлі. Слуцк патрапіў у шырока разгалінаваную сетку буйной антысавецкай арганізацыі «Народнага саюза абароны радзімы і свабоды» (НСАРС) на чале з вядомым Барысам Савінкавым. Былы эсэр-тэрарыст змог аб'яднаць прадстаўнікоў самых розных палітычных плыняў і заключыць пагадненне з беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі — Беларускім Палітычным Камітэтам і баевікамі «Зялёнага Дуба» для падрыхтоўкі агульнага антысавецкага паўстання. Праект прадугледжваў стварэнне сеткі так званых Інфармацыйных бюро ўздоўж мяжы. Для ініцыятараў узброенай акцыі, якая была запланавана на канец жніўня 1921 года, выкарыстанне агентаў было важным інструментам для падрыхтоўкі і мабілізацыі новых людзей. Але ж падполле — і слуцкае не выключэнне — было прасякнутае чэкісцкай агентурай, таму «зачыстка» горада адбылася даволі хутка.

Чэкісты ў час аперацыі «Крот» у мяцежным Слуцку і павеце выявілі шмат жанчын — «контррэвалюцыянерак і шпіёнак». На іх долю выпалі цяжкія выпрабаванні. Намаганнямі Шульмана было затрымана нашмат болей, чым 14 асобаў. Арышты адбыліся якраз у ліпені-жніўні 1921-га. Па «справе 14» праходзілі слуцкія актывісткі, прыхільніцы партыі эсэраў Марыя Несцярэнка, Вольга Дыла, Надзея Белагаловік, узгаданыя сёстры Стагановіч і іншыя. Дзясяткі жанчын, якія атрымалі вялікія па тых часах тэрміны, — 5–6 гадоў, фігуруюць у «шпіёнскіх» спісах. Сустракаюцца і знаёмыя прозвішчы: Ефрасіння Рэўт, сястра начальніка контрвыведкі Слуцкай Брыгады, была затрымана за контррэвалюцыю. Алена Кутылоўская-Сокал абвінавачвалася ў контррэвалюцыі і шпіянажы, таксама як і Алена Свірская, Варвара Кульчыцкая…

У вартавым памяшканні Асобага аддзела памежнага аддзялення №4 (Слуцкае) у жніўні чэкісты сабралі 28 чалавек. Усе яны былі з групы «падтрымкі» атамана, кіраўніка партызанскага аддзела на Случчыне Ігната Шпакоўскага. Большасць арыштаваных, якіх спачатку планавалі перадаць у Смаленскую катаржную турму, а потым этапавалі ў Мінск, складалі жанчыны: сёстры, жонкі, каханкі, проста аднавяскоўцы галоўных фігурантаў. 16-гадовая сястра «палявога камандзіра» Шпакоўскага Канстанцыя трапіла адразу ў падвалы ЧК. Толькі ў лютым 1923 года яна аказалася ў Мінскай турме.

8-га сакавіка для зняволеных жанчын было доўгачаканым святам. Надзея на амністыю сагравала душу. Пасяджэнне 6 сакавіка 1924 года камісіі па амністыі разглядала справы слуцкіх жанчын. Кутылоўскай-Сокал, якая на той момант сядзела ўжо 22 месяцы з 6 гадоў прысуду, Свірскай, асуджанай на 8 гадоў, іх сяброўкам і саўдзельніцам па справе Шпакоўскага Кульчыцкай і Кудзіноўскай у амністыі было адмоўлена. Прысуд за «палітыку» пазбаўляў жанчын магчымасці выйсці на волю. У той час як утрымальніцы крымінальных «малін» і прытонаў секс-паслуг болей чым два месяцы ў вязніцы не затрымліваліся.

Жаночымі імёнамі стракацяць следчыя і турэмныя справы. Артыкулы, па якіх яны атрымлівалі сур'ёзныя тэрміны, — 66-ты, 61-ы, 98-ы — контррэвалюцыя, дапамога міжнароднай буржуазіі, імкненне да звяржэння савецкай улады, шпіянаж. Як правіла, дзяўчаты былі пісьменныя, ведалі справаводства, бухгалтэрыю. «Педагагічкі», краўчыхі былі вельмі запатрабаваныя ў турэмных школах, майстэрнях. Пісьменная Марыя Кіўла, якая была арыштаваная разам з бацькам, супрацоўнікам Слуцкага выканкама, заняла пасаду загадчыцы буфета ў канцлагеры, работніцамі лагернага «общепита» сталі яе сяброўкі Кудзіноўская і Жукоўская.

Яшчэ адна форма пакарання жанчын — высылка за межы Беларусі — усё шырэй практыкавалася з 1921 года. Адрасы высылкі былі розныя: Волагда, Іркуцк, Арэнбург, Нованікалаеўск (Новасібірск), Салаўкі.

Жаночая гісторыя Беларускага Адраджэння менш вядомая, але не менш бліскучая і натхняльная, драматычная і надзвычайная. І калі на вуліцы Мінска сёння выходзяць жанчыны і патрабуюць «іншай» палітыкі — гэта таксама чарговае звяно нацыятворчага ланцуга.

ЛІСТЫ З-ЗА КРАТАЎ

# «Калі тут знаходзішся, то думаеш не пра сябе»

**Тысячы лістоў ідуць зняволеным. Тысячы адказаў. І толькі адзінкі прабіваюцца праз цэнзараў ці яшчэ кагосьці. Некаторыя з лістоў вартыя публічнасці, тым больш што пра гэта просяць самі вязні. Мы пачынаем новую рубрыку «Лісты з-за кратаў».**

## Аляксей Беразінскі: Як пасадзіць усю краіну?

— 8 сакавіка — гэта звычайна быў дзень, калі я сядаў у машыну, ехаў да свайго сябра, які займаецца продажам кветак, купляў 200 (ці нават больш) цюльпанаў розных колераў — і пачынаўся марафон. Маці, жонка і яе сястра, цешча, жонка брата, дачка і шмат хто яшчэ. Ну, карацей, кожны



мужык зразумее. Мне падабалася бачыць жаночыя ўсмешкі. А яны заўсёды з'яўляліся ў такія моманты. Вясна, сонейка, цюльпаны…

Гэтым разам нешта пайшло не так. І па кветкі не з'ездзіць, і надвор'е нешта сапсавалася. Хаця за амаль пяць месяцаў за кратамі таго надвор'я амаль не бачыў. Вось такая праблема, якая на волі праблемай зусім не здаецца. Другая праблема: адсутнасць нармальнай музыкі. Увесь час круцяць «Рускае радыё», ад якога ўжо ванітуе. Прабачце, набалела.

Ведаю, што вы вельмі хвалюецеся за мяне. Дарэмна. Калі гэта цана свабоды, калі гэта выпала на мой лёс — я спраўлюся. Разумееце, тут амаль няма злачынцаў. Тут усе ўсё разумеюць. Магчыма, нават больш разумеюць, чым на волі. Краты — вось чым яны думаюць запалохаць беларусаў, якія імкнуцца быць свабоднымі. Але кратамі ўжо нічога не выправіць. Як пасадзіць усю краіну?

Калі тут знаходзішся, то думаеш не пра сябе. За мяне тут ёсць каму думаць: будзяць, абшукваюць, даюць есці, зноў абшукваюць. Усе думкі пра тое, як вы там спраўляецеся. Якія адзнакі ў Варвары? Ці трапляюць у асноўны склад на сваім футболе Мар'ян ды Сцёпа? Як там праца? Ці ўсё добра з нашым прыбіральнікам Васілём Іванавічам? Часта вы пытаецеся, чым мне дапамагчы. Адказ просты: рабіце ўсё тое, што мы рабілі разам. Калі ў вас будзе ўсё добра, то і ў мяне настрой тут палепшыцца.

Дакладна ведаю, што цяжэй за ўсё маці. Яе стан пасля суда — гэта, можа быць, самы цяжкі момант за ўсе гэтыя пяць месяцаў. Матуля, давай дамовімся: я тут добра ем і нашу шапку (калі халоднае надвор'е), а ты спрабуеш трошкі менш хвалявацца. Добра?

Карацей, любімыя мае жанчыны, я віншую з 8 Сакавіка вас тут, на старонках «Новага Часу». Разумею, што цяпер будзе менш усмешак не толькі ў маіх жанчын. Гэтую вясну ў нас забралі, і мы запомнім яе такой. Але я дакладна разумею, што зусім хутка прыйдзе час, калі ўсмешак стане вельмі-вельмі многа ва ўсёй Беларусі!

Са святам!

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## Мікалай Дзядок: Мы мусім умацоўваць давер між сабой

— Настрой добры, здароўе таксама больш-менш, датычна ціску — усё як заўжды: пераводы з СІЗА ў СІЗА, з камеры ў камеру, абмежаванне лістоў, перашкоды ў сустрэчах з адвакатам.

Інфармацыя да мяне даходзіць вельмі сціпла. Але з таго, што ведаю, больш за ўсё ўзрадавала самаарганізацыя ў дварах, праект BYPOL і адмена Чэмпіянату свету па хакеі, якія яго ўзрушылі.

Лічу, што рэжым плануе пачаць гандаль палітвязнямі за зняцце санкцый і крэдыты, але гэтым разам стары нумар можа ўжо не атрымацца.

Чым скончацца пратэсты — пакуль казаць рана, але навідавоку паступовы распад дзяржаўнай машыны. Гэта дае надзею на перамогу ў агляднай будучыні. Наша сітуацыя найбольш падобная да сітуацыі ў Польшчы, калі ў 1983-м годзе ў краіне ўвялі вайсковае



становішча, а ўжо ў 1989-м наменклатура пачала саступаць, бо не бачыла перспектываў жыцця ў расколатым грамадстве. Мы пройдзем гэты шлях значна хутчэй.



Я лічу, што вырашальным стане заканчэнне грошай у бюджэце і эканамічныя пратэсты.

Але рэпрэсіі будуць працягвацца, бо рэжым усё гэтак жа адчувае небяспеку, а сціхнуць яны могуць толькі са спыненнем існавання гэтага рэжыму.

Усе дзеянні карнікаў накіраваныя ў бліжняй перспектыве — каб запалохаць, а ў больш далёкай — каб падарваць давер між людзьмі. У турме, якая з'яўляецца копіяй грамадства ў мініяцюры, гэта асабліва заўважна. Як на волі, так і ў турме праз аператыўную працу між людзьмі сеюцца спрэчкі, інтрыгі, недавер, каб кожны падазраваў у кожным правакатара ці цынічнага эскапіста. З гэтага вынікае, што мы мусім умацоўваць давер між сабой, бо вялікія групы людзей, якія давяраюць адна адной і здольныя артыкуляваць свае інтарэсы — гэта смяротная небяспека для сістэмы.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## Дзмітрый Казлоў: «У мяне ўсё нармальна»

Настасся Емяльянава ліstуецца са зняволеным блогерам Шэрым Катом (Зміцерам Казловым). Блогер паведаміў пра тое, што лісты даходзяць вельмі рэдка.

«Я з ім лістуюся. Ад мяне ён атрымаў толькі калядную паштоўку, якая была пазначана як ліст №2. Больш лістоў ад мяне Дзмітрый не атрымаў. Сёння я атрымала яшчэ ліст ад Шэрага Ката. Зноў піша, што толькі ліст №2 мае ад мяне. Пытаецца, ці даходзяць яго лісты. А я ўжо 6 лістоў яму даслала, пішу, што яго лісты атрымала. Але ж тая інфармацыя да яго не даходзіць.

З сённяшняга ліста ад яго: "У мяне ўсё нармальна, наколькі гэта магчыма. Здароўе пакуль не падводзіць, але і больш яго ад сядзення ў турме не становіцца. Справа паволі рухаецца да суда, ужо, магчыма, у сярэдзіне вясны і суд адбудзецца..."»

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## Ціхан Клюкач: «Заўсёды былі на гэтай зямлі героі»

Ціхан даслаў у рэдакцыю адзін са сваіх цудоўных малюнкаў і вось што напісаў:

— Што я хачу сказаць гэтым малюнкам? Што заўсёды былі на гэтай зямлі героі, тыя, хто змагаўся за праўду, хто верыў у лепшую будучыню, хто ўсё жыццё прысвяціў



вялікай справе — служэнню народу. Тыя, хто выходзіў з бел-чырвона-белымі сцягамі на вуліцы і плошчы беларускіх гарадоў у 2020-м — духоўныя нашчадкі тых герояў: ад Вітаўта да Кастуся Каліноўскага, ад рыцараў ВКЛ да паўстанцаў Касцюшкі. Жыве Беларусь!

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №419

Падпісана да друку 11.03.2021. 8.00. Наклад 4000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.